● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● кошт 3000 рублёў

5 лістапада 1998 г. чацвер, № 217 (23568)




# ЗВЯЗДА


## Тарыфы на тэлефон скокнулі ўгору

**Як паведамілі «Звяздзе» у Рэспубліканскім аб'яднанні «Белтэлекам», з пачатку месяца ў краіне ўступілі ў дзеянне новыя тарыфы на тэлефонныя паслугі.**

Так, цяпер абанементная плата ў населеных пунктах, пераведзеных на пахвілінную аплату перагавораў, складае ўжо 31 тыс. рублёў (адна хвіліна размовы падаражэла да 95 рублёў), у астатніх жа яна ўзнялася да 48 тысяч.

Змяніліся таксама тарыфы на міжгароднюю і міжнародную тэлефонную сувязь. Хвілінная размова з абанентам ў межах адной вобласці будзе абыходзіцца патэлефанаваўшаму ўжо ў 1200 рублёў, а ў межах рэспублікі — ўдвая даражэй.

21 тыс. рублёў будзе каштаваць кожная хвіліна тэлефоннай сувязі з еўрапейскай часткай Расіі (з азіяцкай — 22 тыс.руб.), 15 тыс.руб. — з Украінаю, 24 тыс.руб. — з Эстоніяй, 25 тыс.руб. — з Літвою, 28 тыс.руб. — з Латвіяй, 27 тыс.руб. — з Арменіяй, Грузіяй і Казахстанам, 30 тыс.руб. — з Германіяй, 66 тыс.руб. — з ЗША і Канадаю, 78 тыс. руб. — з краінамі Паўднёва-Усходняй Азіі.

Устаноўка тэлефоннага апарата пасля павышэння тарыфаў «цягне» зараз для гарадскіх жыхароў ужо на 2 млн. рублёў, а ў сельскай мясцовасці — толькі на 330 тысяч.

Зразумела, не абмінула падаражанне і тэлефонныя аўтаматы: новы тарыф прыпыніўся тут на адзнацы 600 рублёў за хвіліну размовы.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**



## Пра цябе, родны край, наша песня гучыць

Калі вам давядзецца пачуць, як спяваюць дзяўчаткі і хлапчукі са смаргонскага ансамбля «Гулянак» — нагадайце гэты фотаздымак. Зроблены ён у адзін з пахмурных восеньскіх дзён, калі, здавалася, нішто ўжо было не здольна палепшыць настрой, сапсаваны дрэнным надвор'ем, і прымусіць усміхнуцца насуперак ветру і даждзу. На вясковае свята з райцэнтра прыехаў дзіцячы ансамбль, і плошча перад сельскім домам культуры нібы расцвіла ў вясновых фарбах.

Прыгожа спявае, прыгожа выглядае «Гулянак». Ансамбль ахвотна адгукаецца на запрашэнне прыняць удзел у вясковых святах і кожны раз бывае ўзнагароджаны самай шчырай падзякай гледачоў.

На гэтым фотаздымку вы бачыце кіраўніка ансамбля Чэслава Жыха і самую маленькую салістку Жэню Сакалаеву.

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 524

### Аб мерах па ўдасканаленню дзяржаўнай сістэмы прававой інфармацыі

У мэтах удасканалення адзінай дзяржаўнай сістэмы прававой інфармацыі пастанаўляю:

1. Зацвердзіць прыкладаемае Палажэнне аб Нацыянальным цэнтры прававой інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

2. Устанавіць штатную колькасць Нацыянальнага цэнтра прававой інфармацыі 125 адзінак, у тым ліку за кошт бюджэтнага фінансавання — 60 адзінак.

3. Нацыянальнаму цэнтру прававой інфармацыі да 1 кастрычніка 1999 г. стварыць у абласных цэнтрах рэгіянальныя цэнтры прававой інфармацыі і па ўзгадненню з Адміністрацыяй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь зацвердзіць палажэнні аб гэтых цэнтрах.

Аблвыканкамам аказаць Нацыянальнаму цэнтру прававой інфармацыі дапамогу ў стварэнні цэнтраў, прадаставіць ім неабходныя памяшканні і забяспечыць тэлефоннай сувяззю.

4. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь сумесна з Нацыянальным цэнтрам законапраектнай дзейнасці пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь у двухмесячны тэрмін забяспечыць прывядзенне прававых актаў у адпаведнасць з гэтым Указам.

5. Прызнаць страціўшымі сілу абзацы другі і трэці пункта 4 Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 30 чэрвеня 1997 г. № 338 «Аб стварэнні Нацыянальнага цэнтра прававой інфармацыі Рэспублікі Беларусь (Збор дэкрэтаў, указаў Прэзідэнта і пастаноў Урада Рэспублікі Беларусь, 1997 г., № 17-18, арт. 625).

6. Гэты Указ уступае ў сілу з дня яго падпісання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

*30 кастрычніка 1998 г., г. Мінск.*

(Палажэнне друкуецца на 2-й стар.)

## БЕЛАРУСЬ І САВЕТ ЕЎРОПЫ ШУКАЮЦЬ ШЛЯХІ АДНАЎЛЕННЯ ПАЛІТЫЧНАГА ДЫЯЛОГА

Беларусь як краіна, што належыць да Еўропы тэрытарыяльна, павінна стаць паўнапраўным членам сям'і еўрапейскіх народаў у палітычным і прававым планах. Аб гэтым у ходзе праведзенай 4 лістапада сустрэчы са Старшынёй Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Беларусі Паўлам Шыпуком заявіў намеснік Старшыні Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы (ПАСЕ) Роберт Антрэтэр.

Для таго, каб гэта адбылося, лічыць ён, беларускі бок павінен ліквідаваць шэраг перашкод, што не даюць магчымасці ўстанавіць раўнапраўны і эфектыўны дыялог паміж Беларуссю і Саветам Еўропы. Найбольш спрэчныя пытанні датычаць сферы захавання правоў чалавека, юрысдыкцыі, свабоды прэсы і выбарчай сістэмы. Менавіта гэтай праблематыцы цалкам і прысвечаны цяперашні візіт у нашу краіну намесніка кіраўніка ПАСЕ. 17 снежня, па выніках наведвання Беларусі, Роберт Антрэтэр павінен прадставіць даклад, у якім будуць змяшчацца рэкамендацыі аб мэтазгоднасці аднаўлення статусу «спецыяльна запрошанага» ўдзельніка ПАСЕ ў адносінах да нашай краіны.

На думку Паўла Шыпука, якую ён выказаў у ходзе праведзеных перагавораў, «асобныя складанасці, якія ўзніклі некаторы час таму ў адносінах Беларусі з Саветам Еўропы, не маюць сур'ёзных падстаў». Усе супярэчанні будуць ліквідаваны па ходу развіцця дыялога, лічыць кіраўнік Савета Рэспублікі.

**БЕЛТА.**

## Чыноўнікі будуць «ляскаць зубамі»?

**Дэфіцыт паліўна-энергетычных сродкаў напярэдадні зімы (а яна па ўсіх прыкметах будзе халоднай) ужо дастаткова адчувальны. І ў першую чаргу гэта датычыцца менавіта ацяплення жылога сектара.**

Перш за ўсё так адбываецца з-за таго, што ацяпляльны сезон сёлета пачаўся ранавата — падчас кароткачасовага пахаладання ў канцы верасня на месцах усюды былі падключаны батарэі. Аднак літаральна праз тыдзень тэмпература паветра на дварэ зноў папаўзла ў бок павышэння (нагадаем, што ацяпляльны сезон пачынаецца ў тым выпадку, калі сярэднясутачныя тэмпературныя паказчыкі на працягу пяці дзён складаюць не больш 8°С, а для бальніц, школ і дзіцячых садзікаў гэты нарматыў роўны 10°С). Тады і пайшлі меркаванні наконт таго, што ацяпленне будуць адключаць. Аднак усё засталося на ўзроўні чутак. Маўляў, інжынерныя сістэмы вялікія, і адключаць іх — толькі сабе ва ўрон.

Як стала вядома карэспандэнту «Звязды», размовы наконт абмежавання ацяплення ўсё ж аказаліся небеспадстаўнымі — днямі ў Міністэрстве жыллёва-камунальнай гаспадаркі былі распрацаваны адпаведныя рэкамендацыі мясцовым уладам. У мэтах эканоміі паліўна-энергетычных рэсурсаў прапануецца адключаць батарэі ў адміністрацыйных будынках. Пакуль тэмпература паветра на дварэ не дасягне мінусавых паказчыкаў, будзе дзейнічаць абмежаванне. Так што ў хуткім часе чыноўнікам прыйдзецца апранацца цяплей. Праўда, усё залежыць ад таго, якое рашэнне прымуць мясцовыя ўлады...

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

## КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 4 ЛІСТАПАДА 1998 г. (па стану на 15.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Мінск (017) | | | | | | | |
| «Славнефтебанк» | 79900 | 80000 | 48230 | 48290 | 4930 | 5130 | 216-23-91 |
| Тэхнабанк | 79900 | 80000 | 47700 | 48200 | 4900 | 5100 | 283-15-00 |
| Белбізнесбанк (гал. апер. упр.) | 79500 | 80000 | 47700 | 48290 | 4900 | 5130 | 276-95-31 |
| Нацыянальны банк РБ афіцыйны курс (курс для безнаяўных разлікаў) | 59000,00 | | 35490,86 | | 3800,00 | | Курс на 5.11.1998 |
| Цэнтрабанк Расіі | 15,5400 | | 9,3739 | | | | |

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваецца ад курсаў, установленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

***Першы выпуск штогадовага даведачнага альманаха «Курсы Нацбанка РБ і Цэнтрабанка РФ» за перыяд з 1990 па 1997 гады можна набыць, пазваніўшы па тэл. (017) 228-59-80.***

## У сталіцы ўпаў самалёт

У сталічным аэрапорце «Мінск-1» адбылася авіяцыйная аварыя: пры пасадцы пацярпеў катастрофу невялікі лятальны апарат.

Аднак у адміністрацыі аэрапорта карэспандэнту «Звязды» адмовіліся прадаставіць хоць бы нейкую інфармацыю аб здарэнні. У Дзяржкамітэце па авіяцыі таксама зрабілі выгляд, быццам нічога не было, хаця потым ускосна ўсё ж пацвердзілі факт катастрофы. Больш падрабязныя звесткі ўдалося атрымаць ва ўпраўленні грамадзянскай абароны Галоўнага ўпраўлення камандуючага ўнутранымі войскамі. У нядзелю ў 13.10 двухмесны самалёт нямецкай вытворчасці «Ікарус» сапраўды пацярпеў катастрофу. Належаў ён нашай фірме «Регул», кіраваў лятальным апаратам лётчык-выпрабавальнік Юрый Галічын. Пры пасадцы ў самалёта зламалася шасі. Лётчык сур'ёзна не пацярпеў, як, зрэшты, і сам самалёт. Не было і іншых пашкоджанняў. Як стала вядома, па факту здарэння праводзіцца расследаванне, вынікі якога будуць вядомы прыкладна праз дзесяць дзён.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

### ХОДЗЯЦЬ ЧУТКІ, ШТО...

## ... для набыцця шэрагу прамысловых тавараў магазіны аднавілі папярэдні запіс на іх

**Гаворка ідзе найперш пра айчынную складанабытавую тэхніку накшталт тэлевізараў і халадзільнікаў, мэблю. Апошнім часам гэтыя тавары з многіх гандлёвых прадпрыемстваў зніклі цалкам, таму, маўляў, каб набыць неабходнае, трэба, як і раней, папярэдне запісацца ў чаргу на яго атрыманне.**

Прэс-сакратар міністра гандлю Вячаслаў Лявонаў пракаменціраваў гэтыя чуткі наступным чынам. Папярэдні запіс на набыццё пэўных, асабліва дарагіх і буйных прамысловых тавараў, ніхто зараз спецыяльна не ўводзіў, але і не адмяняў раней. Гэта зручная для магазінаў форма працы, асабліва падчас пэўнага дэфіцыту. Так, маўляў, гандлёвым прадпрыемствам лягчэй працаваць, бо яны загадзя, з улікам паступіўшых заявак, могуць фарміраваць заказы на пастаўку канкрэтных тавараў. Але кожны магазін самастойна вырашае, ці ўводзіць папярэдні запіс на набыццё тых жа тэлевізараў або халадзільнікаў.

Зусім іншага пункту погляду прытрымліваюцца ў аддзеле арганізацыі гандлю сталічнага ГУМа. Так, складанабытавой айчыннай тэхнікі тут у продажы зараз няма. Нават калі аднавіць папярэдні запіс, ніхто яе ў магазін не паставіць, лічаць спецыялісты. Прычына тут хаваецца ў цэнаўтварэнні. Як толькі на тэхніку ўстановяць свабодныя цэны, яна тут жа з'явіцца ў свабодным продажы ў дастатковай колькасці. Пры існуючых цэнах нават па запісу пастаўляць яе ніхто з вытворцаў не будзе. А тое, што атрымлівае магазін, тут жа раскупляецца.

Іншая справа — спажывецкая кааперацыя. Гандаль у сельскай мясцовасці ўжо даўно працуе з журналамі ўліку папярэдніх заявак грамадзян. Чалавек можа заказаць любы прамысловы або харчовы тавар (тут таксама дзейнічаюць нормы водпуску), які яму павінны паставіць на працягу месяца. Аднак апошнім часам, як паведамілі ва ўпраўленні гандлю Белкаапсаюза, заяўнікі сталі часцей адмаўляцца ад пакупак з-за таго, што заказаны тавар паступае ўжо па новых цэнах. Калі жыхар вялікага горада мае магчымасць хутчэй знайсці ў свабодным продажы патрэбную рэч па больш нізкай цане, дык вясковец часта такой магчымасці пазбаўлены.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

### УСМІХНЕМСЯ!



Малюнак Мікалая СЯЎЛЮКА.

*Муж — жонцы:*
*— Ну, урэшце я атрымаў на працы грошы.*
*— Ну, і дзе ж яны?*
*— Ды вось па дарозе дадому куфаль піва выпіў.*

❑

*Дзве жанчыны размаўляюць.*
*— Ты так цудоўна апранаешся! Колькі твой муж атрымлівае?*
*— Апошні раз ён атрымаў пяць гадоў.*

## РАСПАРАДЖЭННЕ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 301РП
## Аб зацвярджэнні рашэння савета спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі

1. Зацвердзіць прыкладаемае рашэнне савета спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі аб назначэнні стыпендый і аказанні разавай матэрыяльнай дапамогі таленавітым навучэнцам і студэнтам, якія маюць творчыя дасягненні, аб выдзяленні сродкаў на выплату гэтых стыпендый і аказанне разавай дапамогі, на выданне каталога III Міжнароднага дзіцячага пленэру імя І. Я. Рэпіна, на выданне каталога Рэспубліканскай маладзёжнай выстаўкі «Час. Прастора. Асоба», на правядзенне майстар-класа для студэнтаў Беларускай акадэміі мастацтваў (г. Санкт-Пецярбург), на выплату прэмій узорнаму дзіцячаму фальклорнаму ансамблю «Дударыкі», камернаму аркестру і хору хлопчыкаў Рэспубліканскага ліцэя пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, на выплату прызавога фонду Рэспубліканскага конкурсу па стварэнню фірменнага стылю спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі.

2. Кіраўніцтву справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь выдзеліць Міністэрству культуры са сродкаў спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі 1 млрд. 73 млн. рублёў на фінансаванне расходаў у адпаведнасці з рашэннем, указаным у пункце 1 гэтага распараджэння.

Міністэрству культуры ажыццявіць адпаведныя выплаты.

3. Вызваліць атрымальнікаў сум, што выплачваюцца ў адпаведнасці з гэтым распараджэннем, ад выплаты падаходнага падатку.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнка.**

*30 кастрычніка 1998 г., г. Мінск.*

## Канцэртная зала «Залатога шлягера-98» спявае разам са сваімі кумірамі

**Першага лістапада ў самай буйной кацэртнай зале Магілёва — Палацы культуры МВА «Хімвалакно» — адбыўся першы канцэрт сёлетняга фестывалю «Залаты шлягер-98» — «Народныя артысты СССР вітаюць Магілёў», у якім бралі ўдзел такія знакамітасці, як Эдзіта П'еха, Муслім Магамаеў, Мікалай Слічэнка, Нані Брэгвадзе, Анатоль Салаўяненка і іншыя «рэтра-зоркі» савецкай эстрады.**



На наступны дзень, 2 лістапада, у абласным цэнтры адбылося ўрачыстае адкрыццё IV Міжнароднага музычнага фестывалю «Залаты шлягер», на якім прысутнічаў прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, а таксама іншыя высокія службовыя асобы дзяржавы.

Старшыня Магілёўскага аблвыканкама Аляксандр Кулічкоў назваў гэту музычную падзею «мосцікам, які з'яднаў духоўную прастору рэспублік былога Савецкага Саюза». Песні, якія выконвалі ў той вечар на сцэне Роза Рымбаева, Маргарыта Суворава, Уладзімір Макараў, Віктар Вуячыч і ўсе іншыя ўдзельнікі святочнага канцэрта, у тым ліку і маладыя таленавітыя выканаўцы, любяць і спяваюць людзі ўсіх пакаленняў ва ўсіх постсавецкіх краінах. Так і магілёўская зала спявала разам са сваімі любімымі артыстамі шлягеры мінулых гадоў, а госця з Малдовы, чароўная Надзея Чапрага, запрасіла на сцэну спяваць разам і Аляксандра Лукашэнку.

Сёння фестываль перайшоў сваю «залатую сярэдзіну», але застаецца яшчэ шмат цікавых канцэртаў і творчых сустрэч знакамітасцяў мінулых гадоў са сваёй удзячнай публікай. Сёння ў Магілёве адбудзецца сольны канцэрт Яраслава Еўдакімава і творчая сустрэча з ізраільскай спявачкай Марыяй Лукач і народнай артысткай Расіі Капіталінай Лазарэнка, у Бабруйску — канцэрт Эдзіты П'ехі. Канцэрты ўдзельнікаў фестывалю сёння пройдуць і ў райцэнтрах Магілёўскай вобласці — Дрыбіне, Мсціславе, Горках і Клімавічах, а таксама — упершыню ў гісторыі «Залатога шлягера» — у Смаленску.

Закрыццё фестывалю, узнагароджанне пераможцаў конкурсу маладых выканаўцаў і вялікі гала-канцэрт адбудзецца 8 лістапада ў Магілёве. А інтэрв'ю з удзельнікамі «Залатога шлягера-98» чытайце ў наступных нумарах «Звязды».

**Ілона ІВАНОВА.**

**На здымку:** *Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка з Надзеяй Чапрагай.*

**Фота Аляксандра ЛІЦІНА.**

***ЗАЦВЕРДЖАНА***
***Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь 30.10.1998 № 524***

## ПАЛАЖЭННЕ АБ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ ЦЭНТРЫ ПРАВАВОЙ ІНФАРМАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**АГУЛЬНЫЯ ПАЛАЖЭННІ**

1. Нацыянальны цэнтр прававой інфармацыі Рэспублікі Беларусь (далей НЦПІ) з'яўляецца цэнтральнай дзяржаўнай навукова-практычнай установай у галіне камп'ютэрнага накаплення, захоўвання, сістэматызацыі і прадастаўлення ў карыстанне эталоннай прававой інфармацыі на папяровых і электронных (магнітных) носьбітах, стварэння міждзяржаўнай сістэмы абмену прававой інфармацыяй.

2. НЦПІ ў сваёй дзейнасці кіруецца Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, законамі Рэспублікі Беларусь, рашэннямі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і іншымі актамі заканадаўства.

3. НЦПІ з'яўляецца юрыдычнай асобай, падпарадкаванай Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, мае пячатку з выявай Дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь і са сваёй назвай.

4. НЦПІ ўзаемадзейнічае з дзяржаўнымі органамі Рэспублікі Беларусь, а таксама міжнароднымі арганізацыямі па пытаннях, якія ўваходзяць у яго кампетэнцыю.

**АСНОЎНЫЯ ЗАДАЧЫ І ФУНКЦЫІ НЦПІ**

5. Асноўнымі задачамі НЦПІ з'яўляюцца:

фарміраванне і вядзенне адзінага эталоннага банка даных прававой інфармацыі;

стварэнне і развіццё дзяржаўнай сістэмы прававой інфармацыі, каардынацыя дзейнасці ў галіне ўкаранення камп'ютэрных сістэм і банкаў даных прававой інфармацыі, а таксама распаўсюджанне прававой інфармацыі;

удзел у падрыхтоўцы праектаў законаў і іншых прававых актаў;

правядзенне навуковых даследаванняў у галіне прававой інфарматызацыі;

забеспячэнне міждзяржаўнага абмену прававой інфармацыяй;

удзел у падрыхтоўцы і правядзенні работ па прававой інфарматызацыі.

6. У адпаведнасці з асноўнымі задачамі НЦПІ ажыццяўляе наступныя функцыі:

фарміруе і вядзе адзіны эталонны банк даных прававой інфармацыі на папяровых і электронных (магнітных) носьбітах;

забяспечвае вядзенне Нацыянальнага рэестра прававых актаў Рэспублікі Беларусь і ажыццяўляе яго афіцыйнае выданне;

фарміруе і вядзе камп'ютэрны банк даных праектаў законаў Рэспублікі Беларусь;

у межах сваіх паўнамоцтваў арганізоўвае распаўсюджанне прававой інфармацыі ў парадку, устаноўленым Адміністрацыяй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, а таксама распрацоўку і рэалізацыю рэспубліканскай праграмы прававой інфарматызацыі;

стварае рэгіянальныя цэнтры прававой інфармацыі і кіруе імі;

ва ўстаноўленым парадку прымае ўдзел у ліцэнзаванні дзейнасці па распаўсюджанню прававой інфармацыі;

арганізоўвае распрацоўку і ўдасканаленне праграмнага, тэхналагічнага і іншага забеспячэння аўтаматызаваных сістэм прававой інфармацыі;

ажыццяўляе збор прававых актаў у парадку, устаноўленым заканадаўствам, іх апрацоўку і падтрыманне ў кантрольным стане на папяровых і электронных (магнітных) носьбітах;

ва ўстаноўленым парадку ўдзельнічае ў распрацоўцы праектаў нарматыўных прававых актаў, якія рэгулююць пытанні прававой інфарматызацыі;

выконвае работы па вядзенню і суправаджэнню Агульнаправавога класіфікатара Рэспублікі Беларусь, тэрміналагічнага юрыдычнага слоўніка (тэзаўруса), іншых слоўнікаў і класіфікатараў для выкарыстання іх у адзінай сістэме прававой інфармацыі;

ажыццяўляе фарміраванне і вядзенне базы даных міжнародных дагавораў Рэспублікі Беларусь;

фарміруе базы даных нарматыўных прававых актаў абласных (Мінскага гарадскога) Саветаў дэпутатаў і адпаведных выканаўчых і распарадчых органаў;

стварае электронную бібліятэку, якая ўтрымлівае інфармацыю аб міжнародным праве і заканадаўстве замежных краін, забяспечвае доступ да яе дзяржаўных органаў;

прымае ўдзел у стварэнні аўтаматызаваных сістэм міждзяржаўнага абмену прававой інфармацыяй, а таксама адзінай інфармацыйнай прасторы Садружнасці Незалежных Дзяржаў;

стварае агульнадаступны вузел «Інтэрнэт», які змяшчае звесткі аб заканадаўстве Рэспублікі Беларусь;

удзельнічае ў падрыхтоўцы спецыялістаў і навуковых кадраў у галіне прававой інфарматызацыі ў парадку, устаноўленым заканадаўствам;

ажыццяўляе іншыя віды дзейнасці па выкананню задач, ускладзеных на НЦПІ ў адпаведнасці з заканадаўствам.

7. Для выканання асноўных задач НЦПІ мае права ва ўстаноўленым парадку:

запытваць і атрымліваць прававую інфармацыю ад усіх дзяржаўных органаў;

распаўсюджваць прававую інфармацыю як на папяровых, так і на электронных (магнітных) носьбітах;

выкарыстоўваць дзяржаўныя (у тым ліку ўрадавыя) сродкі сувязі і камунікацыі;

ажыццяўляць рэдакцыйна-выдавецкую дзейнасць;

удзельнічаць у рабоце міжнародных арганізацый, арганізоўваць міжнароднае супрацоўніцтва па пытаннях, якія ўваходзяць у яго кампетэнцыю;

заключаць дагаворы з юрыдычнымі і фізічнымі асобамі.

**ФІНАНСАВАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ І МАЁМАСЦЬ НЦПІ**

8. Фінансаванне НЦПІ ажыццяўляецца за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту, даходаў ад гаспадарчай дзейнасці, што ажыццяўляецца ва ўстаноўленым заканадаўствам парадку, і іншых крыніц, не забароненых дзеючым заканадаўствам.

9. Маёмасць НЦПІ складаюць замацаваныя за ім на праве аператыўнага кіравання асноўныя сродкі, а таксама фінансавыя рэсурсы, адлюстраваныя ў яго балансе. Названая маёмасць, у тым ліку атрыманая ад гаспадарчай дзейнасці, з'яўляецца рэспубліканскай уласнасцю і выкарыстоўваецца НЦПІ ва ўстаноўленым заканадаўствам парадку.

10. НЦПІ вядзе бухгалтарскі ўлік і справаздачнасць у адпаведнасці з заканадаўствам.

Кантроль і рэвізія дзейнасці НЦПІ ажыццяўляюцца ўпаўнаважанымі на тое дзяржаўнымі органамі ў адпаведнасці з заканадаўствам.

**АРГАНІЗАЦЫЯ ДЗЕЙНАСЦІ НЦПІ**

11. Дзейнасць НЦПІ ажыццяўляецца ў адпаведнасці з гадавымі планамі, якія зацвярджае Адміністрацыя Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

12. Кіраўніком НЦПІ з'яўляецца дырэктар, які назначаецца на пасаду і вызваляецца ад пасады Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь ва ўстаноўленым ім парадку.

Структура НЦПІ зацвярджаецца дырэктарам па ўзгадненню з Кіраўніком Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

13. Дырэктар НЦПІ:

кіруе дзейнасцю НЦПІ і нясе персанальную адказнасць за выкананне ўскладзеных на НЦПІ задач і функцый;

зацвярджае штатны расклад НЦПІ ў межах агульнай колькасці яго работнікаў;

па ўзгадненню з Адміністрацыяй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь назначае на пасады і вызваляе ад пасад намеснікаў дырэктара і кіраўнікоў структурных падраздзяленняў НЦПІ, а таксама кіраўнікоў рэгіянальных цэнтраў прававой інфармацыі;

прымае на работу і звальняе ва ўстаноўленым парадку іншых работнікаў НЦПІ;

дзейнічае без даверанасці ад імя НЦПІ, прадстаўляе інтарэсы НЦПІ ў адносінах з дзяржаўнымі органамі і міжнароднымі арганізацыямі, юрыдычнымі і фізічнымі асобамі;

распараджаецца грашовымі сродкамі і іншай маёмасцю НЦПІ ў межах правоў, прадастаўленых яму гэтым Палажэннем і іншымі актамі заканадаўства;

заключае дагаворы;

выдае даверанасці, адкрывае ў банках разліковы і іншыя рахункі;

па пытаннях, якія ўваходзяць у яго кампетэнцыю, выдае загады і дае ўказанні, абавязковыя для выканання ўсімі работнікамі НЦПІ;

вырашае іншыя пытанні, звязаныя з дзейнасцю НЦПІ і не аднесеныя заканадаўствам і гэтым Палажэннем да кампетэнцыі Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і іншых дзяржаўных органаў.

14. Працоўныя адносіны ў НЦПІ рэгламентуюцца заканадаўствам аб працы, а таксама правіламі ўнутранага працоўнага распарадку і службовымі інструкцыямі, якія зацвярджаюцца дырэктарам НЦПІ.

На дырэктара, яго намеснікаў і іншых работнікаў НЦПІ (акрамя навуковых супрацоўнікаў і асоб, якія ажыццяўляюць тэхнічнае абслугоўванне і забяспечваюць функцыянаванне НЦПІ) распаўсюджваюцца палажэнні актаў заканадаўства аб асновах службы ў дзяржаўным апараце. Названыя работнікі прыраўноўваюцца па ўмовах аплаты працы, сацыяльна-бытавога, матэрыяльнага, медыцынскага і іншага забеспячэння да адпаведных катэгорый работнікаў Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Дырэктар НЦПІ і яго намеснікі па ўмовах аплаты працы, матэрыяльнага стымулявання, сацыяльна-бытавога, медыцынскага і іншага забеспячэння прыраўноўваюцца адпаведна да начальніка галоўнага ўпраўлення Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і яго намеснікаў.

Аплата працы навуковых супрацоўнікаў НЦПІ ажыццяўляецца ў адпаведнасці з умовамі аплаты працы работнікаў навукі, устаноўленымі для навукова-даследчых устаноў першай катэгорыі. Пры гэтым навуковыя супрацоўнікі і асобы, якія ажыццяўляюць тэхнічнае абслугоўванне і забяспечваюць функцыянаванне НЦПІ, па ўмовах аплаты працы прыраўноўваюцца да адпаведных катэгорый работнікаў Інстытута сацыяльна-палітычных даследаванняў пры Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

15. У НЦПІ ствараецца і дзейнічае дарадчы орган — навукова-кансультатыўны савет.

Састаў навукова-кансультатыўнага савета і палажэнне аб ім зацвярджаюцца дырэктарам НЦПІ па ўзгадненню з Адміністрацыяй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

16. Кантроль за выкананнем НЦПІ рашэнняў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і каардынацыя дзейнасці НЦПІ ўскладаюцца на Адміністрацыю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

**РЭАРГАНІЗАЦЫЯ І ЛІКВІДАЦЫЯ НЦПІ**

17. Рэарганізацыя і ліквідацыя НЦПІ праводзяцца па рашэнню Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ва ўстаноўленым ім парадку.

## ЯРАСЛАЎЛЬ ПЕРАДАЕ ЭСТАФЕТУ ГРОДНА

З кожнай сваёй чарговай сесіяй Парламенцкі Сход Саюза Беларусі і Расіі дэманструе ўсё большую палітычную сталасць і здольнасць вырашаць вельмі складаныя задачы. На сённяшні дзень гэта асноўны інструмент рэалізацыі ідэй, закладзеных у Статуце «саюза дзвюх», што наглядна прадэманстравала і дзевятая сесія Парламенцкага Сходу, якая толькі што завяршыла ў Яраслаўлі сваю работу.

Ужо цяпер можна з упэўненасцю гаварыць аб тым, што на дзевятай сесіі зроблены вельмі важны крок у бок інтэграцыі дзвюх краін. Так рэзюміравалі вынікі сесіі ўдзельнікі прэс-канферэнцыі, якая адбылася адразу ж пасля закрыцця форуму. На сустрэчу з журналістамі прыйшлі старшыня Парламенцкага Сходу, Старшыня Дзярждумы Расійскай Федэрацыі Генадзь Селязнёў і кіраўнікі абедзвюх палат Нацыянальнага сходу Беларусі Анатоль Малафееў і Павел Шыпук.

Акрамя таго, на сесіі быў абмеркаваны ход выканання шэрагу праграм, што рэалізуюцца ў рамках Саюза. Асаблівую цікавасць у сувязі з гэтым выклікае праграма развіцця дызельнага аўтамабілебудавання. Як вобразна адзначыў Генадзь Селязнёў, «яна з'яўляецца тым рухавіком, які не дае Саюзу заглухнуць». Адпаведнай пастановай Парламенцкага Сходу па гэтаму пытанню дадзена даручэнне Выканкаму Саюза прадугледзець у праекце сумеснага бюджэту на наступны год аб'ёмы фінансавання на суму не менш чым 250 мільёнаў расійскіх рублёў, і яшчэ 350 мільёнаў — «звязаны» крэдыт для Беларусі. Гэта тыя сумы, якія, як заўважыў Павел Шыпук, дапамогуць спакойна ўздыхнуць беларускім аўтамабільным прадпрыемствам і зададуць добры тэмп аднатыпным яраслаўскім вытворчасцям.

Асаблівая ўвага на прэс-канферэнцыі ўдзялялася праекту сумеснага бюджэту. разгляд якога запланаваны на пазачарговай сесіі Парламенцкага Сходу. Ён адбудзецца ў снежні ў Мінску. У якасці негатыўнага моманту Генадзь Селязнёў назваў такі факт: сёння Міністэрствам фінансаў Расіі ў бюджэт Саюза пералічана толькі 19,4 працэнта ад гадавой сумы. У той час як беларускі бок свае абавязацельствы выконвае практычна ў поўным аб'ёме. «Эканамічная інтэграцыя не павінна быць папяровай, — сказаў ён, — таму я вымушаны быў звярнуцца для прыняцця магчымых мераў да старшыні Выканаўчага камітэта Саюза, Старшыні Урада Расіі Яўгена Прымакова». У сваю чаргу Анатоль Малафееў заявіў, што «з новым расійскім урадам беларускі бок звязвае надзеі на паглыбленне інтэграцыйных працэсаў, паколькі пераадолець цяперашнія эканамічныя цяжкасці лягчэй разам».

Асобнай крытыцы была падвергнута дзейнасць Вышэйшага Савета, які, паводле адназначнай думкі, працуе дрэнна. Як адзначыў Генадзь Селязнёў, нельга лічыць нармальным, што Вышэйшы Савет не збіраецца больш чым год, у той час як яго работа павінна быць заснавана на прынцыпах сістэмнасці і дынамічнасці.

Звярталася таксама ўвага на тое, што прэзідэнт Беларусі абавязаў усе дзяржаўныя органы рэспублікі бездакорна выконваць рашэнні, што прымаюцца ў рамках Саюза. А вось у Расіі такі падыход, на жаль, адсутнічае. Трэба было б падтрымаць і прапанову Старшыні Вышэйшага Савета Саюза Аляксандра Лукашэнкі аб увядзенні ў практыку курыравання найбольш важных і складаных напрамкаў інтэграцыйных працэсаў паміж дзяржавамі—удзельніцамі Саюза.

Што датычыць пытання аб прадастаўленні парламенту Югаславіі статусу пастаяннага назіральніка пры Парламенцкім Сходзе, то журналістам было заяўлена аб тым, што яно патрабуе дапрацоўкі і будзе разглядацца ўжо на дзесятай сесіі.

Яраслаўская сесія Парламенцкага Сходу сваю работу завяршыла. Прадугледжваецца, што эстафету вясной прыме Гродна.

**Людміла КЛАСКОЎСКАЯ, БЕЛТА.**

## КОЛЬКІ ПАТРЭБНА БЕЛАРУСКАМУ РУБЛЮ ДЛЯ ШЧАСЦЯ?

**Адказныя асобы з Нацыянальнага банка ў прыватных размовах самі прызнаюць, што ў тых умовах, якія зараз склаліся, «абменнікі» з'яўляюцца мёртванароджанымі дзецьмі, а курс, устаноўлены ў іх, не адлюстроўвае сапраўднага становішча.**

Наколькі ж рэальны курс у 180—190 тысяч за долар? У каментарыях, якія ўдалося атрымаць у галоўнай фінансавай установе краіны, лічаць, што лічбы завышаныя, прычым намнога. Да таго ж аптымістычна адзываюцца аб падзеях на «чорным рынку», дзе, напрыклад, учора курс продажу складаў 175 тысяч рублёў. Дзесяць тысяч рублёў, якія скінуў амерыканскі долар, умацоўваюць надзеі многіх на пералом у «адносінах» паміж рублём і СКВ. Між іншым, і камерцыйныя крамы, якія шакіравалі грамадзян цэнамі, таксама крыху «прыціхлі»: кошт многіх тавараў там зменшыўся. У размове з карэспандэнтам «Звязды» адказная асоба з Нацбанка заявіла, што інакш і быць не можа — рынак затавараны, адсутнічае абарот. Гандляры, якія куплялі спачатку дарагую валюту, а потым тавар, на кошце якога ўсё гэта адбівалася, не змаглі доўга трымаць «за вушы» цэны. Спрацаваў рынычны механізм: скептыцызм патэнцыяльных пакупнікоў справакаваў непапулярнае сярод прадаўцоў камерцыйных крамаў рашэнне аб зніжэнні кошту многіх тавараў. Наконт апошняй каціроўкі курса долара некаторыя спецыялісты галоўнай банкаўскай установы праяўляюць аптымізм: маўляў, дзесяць тысяч рублёў перамогі — гэта не мяжа...

**Ігар ГРЫШЫН.**

## НА ВАЕННУЮ СЛУЖБУ — З ДОБРЫМ НАСТРОЕМ

**Дзень прызыўніка будзе адзначацца 5 лістапада ў беларускай сталіцы.**

Гэта свята, якое праводзіцца на Кастрычніцкай плошчы па ініцыятыве аддзела па справах моладзі Мінгарвыканкама, гарадскога камітэта Беларускага патрыятычнага саюза моладзі і Мінскага абласнога ваеннага камісарыята, прымеркавана да асенняга прызыву маладых людзей на абавязковую ваенную службу.

Як стала вядома карэспандэнту БЕЛТА, у плане правядзення свята — спартыўныя мерапрыемствы, выстаўка сучаснай ваеннай тэхнікі, спаборніцтвы па картынгу і авіямадэльнаму спорту. На плошчы будзе таксама разгорнута выстаўка з фондаў музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Удзельнікаў і гасцей Дня прызыўніка чакае смачная салдацкая каша. Свята пачнецца а пятнаццатай гадзіне.

**БЕЛТА.**

## ЗМЯНІЛАСЯ МЕСЦА ПРАЦЫ — ЗМЕНШЫЎСЯ ВОДПУСК?

***30 гадоў адпрацаваў трактарыстам у адной з гаспадарак Нараўлянскага раёна. Летась, як перасяленец, пераехаў у Маладзечна і зноў-такі ўладкаваўся трактарыстам. Ці не маглі б вы патлумачыць, якім зараз павінен быць мой водпуск? Дадам толькі, што я з'яўляюся ліквідатарам, маю працоўныя ўзнагароды.***

**М.І. КАВАЛЁЎ.**

Як нам патлумачыла начальнік юрыдычнага ўпраўлення Міністэрства працы Інеса Чысулкова, трактарыстам-машыністам саўгасаў і іншых дзяржаўных прадпрыемстваў сельскай гаспадаркі прадастаўляецца дадатковы 6-дзённы водпуск за работу ў цяжкіх умовах. Адпаведна, зыходзячы з цяперашняга парадку сумiравання водпускаў, ваш адпачынак павінен складаць 18 працоўных дзён — 12 дзён так званага «асноўнага» водпуску плюс 6 дзён водпуску за цяжкія ўмовы.

Тут трэба мець на ўвазе адну акалічнасць, у сувязі з якой, хутчэй за ўсё, і ўзнікла само пытанне. Справа ў тым, што паводле існуючай яшчэ з часоў СССР нормы, трактарысты-машыністы маюць таксама права на дадатковы (да 6 дзён) водпуск за бесперапынны працоўны стаж на адным прадпрыемстве. Трэба меркаваць, што падчас працы ў Нараўлянскім раёне вы сапраўды карысталіся правам на гэтыя 6 дзён, аднак, на жаль, пасля пераезду ў Маладзечна і змены месца працы такое права ў вас аўтаматычна знікла.

Апроч ужо згаданых 18 працоўных дзён водпуску, вы, Міхаіл Іванавіч, маеце права на 14 каляндарных дзён адпачынку як удзельнік ліквідацыі аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Гэтыя 14 дзён аплачваюцца і могуць быць выкарыстаны як разам са штогадовым водпускам, так і ў любы іншы зручны час. Галоўнае, каб «чарнобыльскі» водпуск быў выкарыстаны вамі менавіта сёлета: паводле існуючага заканадаўства, гэты водпуск не пераносіцца на наступны год і не падлягае кампенсацыі.


Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.
Будні фермы.

# «ТОЛЬКІ ПРЫ МАШТАБНЫМ ВЫКАРЫСТАННІ НАВУКОВЫХ РАСПРАЦОВАК ЛОЗУНГ «НАВУКА — ПРАДУКЦЫЙНАЯ СІЛА» НАПОЎНІЦЦА МАТЭРЫЯЛЬНЫМ, РЭАЛЬНЫМ ЗМЕСТАМ, А ЗАТРАТЫ НА ЯЕ БУДУЦЬ З ЛІШКАМ АКУПЛЕНЫ»

## Так лічаць вучоныя-аграрнікі, разгледзеўшы на агульным сходзе Акадэміі аграрных навук праблему ўкаранення дасягненняў навукі ў вытворчасць

**Беларусь — сельскагаспадарчая краіна. Стан і ступень развіцця яе аграпрамысловага комплексу вызначае стабільную эканамічную, палітычную і сацыяльную абстаноўку ў грамадстве, яе харчовую бяспеку. Але з-за разрыву эканамічных сувязяў пасля развалу Саюза, рыначнай арыентацыі без прыняцця своечасовых адаптацыйных мераў істотна скараціліся аб'ёмы сельскагаспадарчай вытворчасці, а значыцца, і рэалізацыя харчавання. Калі ў 1991 г. экспарт харчавання Беларусі перавышаў імпарт амаль у 4 разы, дык цяпер ужо імпарт перавысіў экспарт. Наша прадукцыя не заўсёды якасная, таму часта неканкурэнтаздольная ў параўнанні з прывазной. Ды і вытворчасць яе шматзатратная. Таму адным з галоўных шляхоў вываду нашага аграпрамысловага комплексу з застойнага эканамічнага, энергетычнага і экалагічнага стану павінна стаць асваенне ў вытворчасці навуковых распрацовак.**

**Менавіта праблему ўкаранення дасягненняў аграрнай навукі ў вытворчасць як важнейшага фактару эфектыўнага развіцця аграпрамысловага комплексу і разглядалі вядучыя вучоныя на агульным сходзе Акадэміі аграрных навук.**

**Пра гэта гутарка журналіста Уладзіміра Андрыевіча з прэзідэнтам акадэміі, акадэмікам Віталем Сцяпанавічам АНТАНЮКОМ.**

— Неабходнасць гэтай работы выклікана тым, што ў савецкую эпоху ўсе новыя распрацоўкі ў аграпрамысловым комплексе ацэньваліся ў асноўным паказчыкам павышэння прадукцыйнасці працы за кошт павелічэння ўжывання паліва, металу, электраэнергіі і іншых матэрыяльных сродкаў. Тады ў сабекошце прадукцыі затраты працы складалі 70—75, а рэсурсаў — усяго 4—12 працэнтаў. Цяпер гэтыя ацэнкі і суадносіны значна змяніліся, таму неабходна вырашаць галоўную задачу — скарачаць затраты працы і ўсіх відаў рэсурсаў.

Вопыт краін з развітой эканомікай сведчыць аб тым, што навука, навукаёмістыя тэхналогіі з'яўляюцца зыходнай рухаючай сілай усяго гаспадарчага жыцця, а прырост сельскагаспадарчай вытворчасці на 80 працэнтаў забяспечваецца за кошт рэалізацыі навукова-тэхнічнага прагрэсу.

— Ці мае Акадэмія аграрных навук, навукова-даследчыя ўстановы, ВНУ, творчыя калектывы аграрнага профілю распрацоўкі, што дазваляюць прыкметна ўзняць узровень і эфектыўнасць вытворчасці, забяспечыць спажыўца і знешні рынак якаснай, канкурэнтаздольнай прадукцыяй, якая зможа замяніць імпарт?

— Па большасці накірункаў навуковага пошуку можна сказаць што мае. За апошнія гады вучонымі-аграрнікамі выкананы і ўкаранёны шэраг важных народнагаспадарчых і ведамасных распрацовак, накіраваных на інтэнсіфікацыю АПК, з якіх 63 працэнты замяняюць імпарт. Выкарыстанне іх дазволіла стрымліваць абвальнае падзенне сельскагаспадарчай вытворчасці, падтрымліваць уласнага таваравытворцу, забяспечваць рынак канкурэнтаздольнай прадукцыяй. Толькі, напрыклад, па праграме «Эканоміка АПК» за апошнія гады падрыхтаваны шэраг метадычных і нарматыўных дакументаў, з якіх 49 рэкамендаваны Мінсельгасхарчам для ўкаранення. У іх ліку прынятая Саветам Міністраў Дзяржаўная праграма рэфарміравання АПК, рэкамендацыі па пераўтварэнню калгасаў і саўгасаў у гаспадарчыя структуры рыначнага тыпу і інш. Работа па практычнаму ўкараненню новых падыходаў у аграэканоміцы вядзецца ў калгасе «1 Мая» Шчучынскага, аграаб'яднанні «Вінец» Бярозаўскага, «Маяк» Дзяржынскага, «Камінтэрн» Магілёўскага, «Беларусь» Мядзельскага раёнаў.

Выкарыстанне распрацовак дазваляе ажыццяўляць рэфарміраванне адносінаў уласнасці і стварэнне на гэтай аснове спрыяльных умоў для развіцця разнастайных формаў гаспадарання, дзяржаўнага рэгулявання, пераўтварэння сістэмы кіравання, кадравага і інфармацыйнага забеспячэння АПК, спрыяе стабілізацыі сельгасвытворчасці з наступным яе ростам штогод на 3—5 працэнтаў, зніжэнню матэрыяльна-грашовых і працоўных затрат на адзінку прадукцыі на 4 працэнты штогод.

**— Аснова ўсяму, як вядома, зямля. Яна дае пачатак усяму жывому. Нездарма ў народзе кажуць: «Зямля ўсяго дасць, але калі ў яе не паложыш — нічога не дасць», «Зямля — талерка: што пакладзеш, тое і возьмеш», «Зямля заўсёды аддзячыць», «Калі хочаш хлеб мець, то трэба зямліцы глядзець». Што прапануюць вучоныя для таго, каб нарошчваць вытворчасць раслінаводчай прадукцыі з адзінкі зямельнай плошчы, пры гэтым зніжаючы яе сабекошт і павышаючы канкурэнтаздольнасць?**

— Навуковымі падраздзяленнямі Аддзялення земляробства і раслінаводства акадэміі выкананы работы па рацыянальнаму выкарыстанню рэсурсаў глебы, угнаенняў, сродкаў аховы раслін і стварэнню новых сартоў. Выкарыстанне іх у вытворчасці спрыяе не толькі захаванню глебы ад разбурэння, але і павелічэнню яе прадукцыйнасці.

Напрыклад, асваенне ў гаспадарках глебаахоўнай сістэмы земляробства забяспечвае пры прадукцыйнасці 1 гектара эразіраванай раллі 50—60 цэнтнераў кармавых адзінак зніжэнне страт гумусу ў 2,0—2,5 раза і экалагічную ўстойлівасць аграландшафтаў. Распрацаваны сістэмы землекарыстання, якія павышаюць вытворчасць раслінаводчай прадукцыі на 20—25 працэнтаў без дадатковых затрат рэсурсаў.

Выкананы таксама распрацоўкі, накіраваныя на ўдасканаленне тэхналогій вырошчвання сельскагаспадарчых культур, высокаэфектыўнай палявой і лугавой кормавытворчасці. Сярод іх сістэма энергаэканомнай асноўнай апрацоўкі глебы, якая дазваляе знізіць затраты на 42 працэнты, а расход паліва ў 2,5 раза, правесці пасеў культур у лепшыя агратэхнічныя тэрміны.

Укараненне ў вытворчасць энергарэсурсазберагальных сістэм прымянення мінеральных угнаенняў дазваляе эканоміць да 200 тысяч тон дзеючага рэчыва. А адна тона, як вядома, дае прыбаўку 8 тон збожжавых адзінак, значыцца дадатковы збор хлеба можа скласці каля 1,5 млн. тон.

Асваенне ў вытворчасці інтэграваных сістэм аховы раслін магло б забяспечыць рэальны эканамічны эфект больш 700 млрд. рублёў штогод. Распрацавана тэхналогія вытворчасці харчовай бульбы, якая забяспечвае ўраджайнасць больш як 400 ц клубняў з гектара пры зніжэнні прамых энергазатрат на 26 працэнтаў.

Не толькі ў рэспубліцы, але і ў краінах замежжа вядомы сарты сельскагаспадарчых культур, створаныя беларускімі селекцыянерамі. Цяпер 82 працэнты пасяўной плошчы збожжавых і 80 працэнтаў бульбы занята раяніраванымі сартамі айчыннай селекцыі. У Беларусі вырошчваюцца азімае жыта і піваварны ячмень, якія дазваляюць атрымліваць прадукцыю, што адпавядае экспартным патрабаванням. Шэраг сартоў азімай пшаніцы забяспечвае атрыманне збожжа з высокімі хлебапякарнымі якасцямі. Краіна мае магчымасці перайсці на самазабеспячэнне збожжам і да мінімуму звесці яго імпарт. Адчувальная работа вядзецца вучонымі агароднікамі і садаводамі па вывядзенню новых сартоў і забеспячэнню насельніцтва рэспублікі насеннем агародніны, саджанцамі пладова-ягадных культур. Аднак рух ад атрымання насення эліты да масавых рэпрадукцый замаруджаны, і мы сёння не задаволены гэтым працэсам.

Разлікі паказваюць, што пры поўным асваенні ў вытворчасці патэнцыялу навуковых распрацовак толькі інстытутаў земляробчага профілю рэспубліка магла б штогод дадаткова атрымліваць 1,5 млн. тон збожжа, больш за 500 тыс. тон бульбы, каля 15 тыс. тон ільновалакна, 11 тыс. тон пладоў і агародніны.

**— Напрацаваны навуковы патэнцыял, сапраўды, здольны надаць сілы беларускай зямлі, якая, пры належных адносінах да яе, адплаціць спаўна. Але важна яшчэ і эфектыўна выкарыстаць вырашчанае ў полі, збалансаваць кармавыя рацыёны жывёлы так, каб мець ад іх высокую аддачу. У гэтым сэнсе не апошняе месца займае племянная работа па вывядзенню новых і ўдасканаленню разводзімых у рэспубліцы селекцыйных структур сельскагаспадарчай жывёлы, птушкі, рыбы. Ці можаце вы, Віталь Сцяпанавіч, прывесці некалькі добрых прыкладаў напрацовак вучоных?**

— Работа ў гэтым накірунку вядзецца даўно і плённа. Назаву некаторыя прыклады. Выводзімая ў 12 племянных гаспадарках беларуская чорна-пярэстая парода кароў па ўдоях, малочнаму тлушчу і малочнаму бялку (6056 кг малака, тлустасць 3,86 працэнта) не ўступае замежным аналагам і добра прыстасаваная да мясцовых умоў. Штогадовы эканамічны эфект ад выкарыстання гэтых жывёл складае каля 8 млрд. рублёў. Ён складаецца з дадаткова атрыманага малака і зніжэння на 12 працэнтаў расходу кармоў на адзінку малочнай прадукцыі.

Створаны таксама племянныя статкі мясной жывёлы новага генатыпу. За кошт атрымання дадатковага сярэднясутачнага прыросту, павелічэння забойнага выхаду на 6 працэнтаў і зніжэння затрат корму на 1 кг прыросту на 0,5 кармавой адзінкі ў параўнанні з базавым варыянтам на кожнай жывёліне атрымана дадаткова па 1,2 млн. рублёў. Работы гэтага напрамку маюць важнае значэнне ў сувязі з актыўным разгортваннем праграмы аднаўлення эфектыўнасці работы комплексаў па адкорму буйной рагатай жывёлы.

Вучонымі разам з вытворцамі на базе племзаводаў рэспублікі створаны генатыпы канкурэнтаздольных свіней чорна-пярэстай, буйной белай і беларускай мясной пароды агульнай колькасцю каля 5 тыс. галоў. Штогадовы эканамічны эфект ад выкарыстання гэтай жывёлы складае больш за 1,4 млрд. рублёў.

Асабліва актуальнае значэнне набыло павышэнне каэфіцыента канверсіі зернефуражу шляхам абагачэння яго комплексам біялагічна актыўных дабавак. Напрыклад, акцыянерным таварыствам «Тоса» (г. Асіповічы) наладжана вытворчасць комплекснай мінеральнай дабаўкі для летніх рацыёнаў жывёлы па рэцэпту БелНДІЖ. Выкарыстанне яе ў рацыёнах жывёлы забяспечвае дадатковы прыбытак у разліку на адно жывёламесца 700 тысяч рублёў. Штогод выпрабляецца яе 600 тон, эканамічны эфект ад выкарыстання складае 5,6 млрд. рублёў. У акцыянерным аб'яднанні «Экамол» наладжана вытворчасць прэміксу для адкорму буйной рагатай жывёлы па айчыннай рэцэптуры. Выкарыстанне яго ў рацыёнах жывёлы забяспечвае на адну тону прэміксу 20 млн. рублёў прыбытку за кошт зніжэння затрат корму і павелічэння сярэднясутачнай прывагі.

На Гомельскім хімзаводзе арганізавана вытворчасць комплекснай мінеральнай дабаўкі з выкарыстаннем галітаў, даламітавай мукі, сапрапелю і іншых кампанентаў. Скормліванне гэтай дабаўкі маладняку жывёлы спрыяе павышэнню яго росту на 8 працэнтаў і зніжэнню затрат корму на цэнтнер прадукцыі 0,8 цэнтнера кармавых адзінак.

**— Ураджайнасць сельскагаспадарчых культур, прадуктыўнасць жывёлы, затраты на вытворчасць і перапрацоўку прадукцыі, яе сабекошт у многім забяспечваюцца ўзроўнем механізацыі і энергазабеспячэння. Вядома, што цяпер каля паловы тэхнічных сродкаў эксплуатуецца за межамі амартызацыйных тэрмінаў, узрасла нагрузка на сельскагаспадарчую тэхніку, знізілася надзейнасць забеспячэння тэхналагічных рэгламентаў вытворчасці прадукцыі. Што могуць сяльчанам прапанаваць вучоныя для вырашэння гэтых праблем?**

— НВА «Белсельгасмеханізацыя» ў апошнія сем гадоў асвоена вытворчасць сельскагаспадарчых машын 85 назваў. Гадавая эканомія рэсурсаў ад укаранення гэтых распрацовак складзе па паліву — каля 1,8 тыс. т, металу — больш як 370 т, электраэнергіі — 2,03 млн. кВт. гадз., затратах жывой працы — 450 тыс. чал.-гадз. У фінансавым выражэнні гэта складае больш як 55,4 млрд. рублёў. Акрамя таго, забяспечваецца штогадовая эканомія валютных сродкаў за кошт скарачэння імпарту тэхнікі ў памеры прыкладна 2,2 млн. долараў.

**— Віталь Сцяпанавіч, па вашых словах перспектыўных напрацовак у беларускіх вучоных сапраўды шмат. Але чаму ж яны не знаходзяць шырокага прымянення, слаба ўкараняюцца ў практыку?**

— Я назваў толькі частку распрацовак. Эфектыўнасць іх уплыву на вытворчасць, іх колькасны і якасны рост нас, канешне ж, не задавальняе. І перш за ўсё з-за маруднай і немаштабнай рэалізацыі іх у практыцы. Разлікі паказваюць, што яна знаходзіцца ў межах 15—25 працэнтаў.

Прычыны незапатрабаванасці інтэлектуальнага патэнцыялу разнастайныя, але галоўныя з іх наступныя. Па-першае, рэкамендацыі і прапановы вытворчасці не заўсёды з'яўляюцца комплекснымі, закончанымі, тэхналагічнымі. Іншы раз распрацоўваюцца асобныя прыёмы, не скамплектаваныя ў адзінае цэлае, а патрэбны тэхналогіі вытворчасці прадукцыі з закончаным цыклам, энергарэсурсааптымізаваныя, канкурэнтаздольныя з эканамічнай і экалагічнай пазіцый; па-другое, недастаткова адпрацавана сістэма арганізацыйных і эканамічных мераў заахвочвання распрацоўшчыкаў і спажыўцоў навуковай прадукцыі; па-трэцяе, слабая матэрыяльна-тэхнічная база спажыўцоў навуковых распрацовак; па-чацвёртае, псіхалагічная зашоранасць карыстальнікаў навацый, недастатковая іх прадбачлівасць.

— Відавочная неабходнасць стварэння і рэалізацыі галіновых ведамасных і дзяржаўных, рэгіянальных інавацыйных праграм і фондаў, розных інфармацыйных і сервісных структур. Поспехі ва ўкараненні навукова-тэхнічнага прагрэсу ў практыку прасочваюцца там, дзе захавалася сістэма ўзаемадзеяння па ланцужку навука—вытворчасць.

Надаючы належнае значэнне гэтым пытанням, Акадэміяй аграрных навук распрацавана сістэма ўкаранення завершаных навукова-даследчых і доследна-канструктарскіх работ у АПК. Яна разгледжана і адобрана прэзідыумам Акадэміі аграрных навук і навукова-тэхнічным саветам Мінсельгасхарча Беларусі.

Адной з формаў укаранення навуковых распрацовак у практыку могуць стаць інавацыйныя праекты, рэалізуемыя на спецыяльна адабраных і арганізацыйна сфарміраваных вытворча-тэхналагічных аб'ектах як у цэнтры, так і ў рэгіёнах.

У якасці арганізацыйна-эканамічнай формы рэалізацыі інавацый у сельскай гаспадарцы, зыходзячы з вопыту замежных краін і Расіі, могуць выступаць «агратэхнаполісы». У іх прадугледжваецца комплекснае асваенне навукова-тэхнічнай прадукцыі, атрыманай у ходзе рэалізацыі дзяржаўных галіновых навукова-тэхнічных праграм, міжнародных праектаў, заказной тэматыкі Мінсельгасхарчу, абласных камітэтаў.

Рэалізацыя інавацыйных праектаў у саставе агратэхнаполісаў дазволіць фарміраваць задачы і распрацоўваць доўгатэрміновыя дзяржаўныя, галіновыя і рэгіянальныя праграмы развіцця тэхналогій і тэхнікі, комплекснае асваенне навукова-тэхнічнай прадукцыі, атрыманай у ходзе іх рэалізацыі, з улікам прыродна-кліматычных і экалагічных умоў рэгіёна, сацыяльна-эканамічнай абстаноўкі, сфарміраванай структуры аграпрамысловай вытворчасці, працоўных рэсурсаў, наяўнасці блізкіх вялікіх прамысловых гарадоў, неабходнасці вытворчасці прадукцыі АПК у прыродаахоўнай зоне, радыяцыйнай абстаноўкі і г. д.

Прыкметны ўклад у развіццё інавацыйнай дзейнасці можа ўнесці малое прадпрымальніцтва ў навуковай сферы. Менавіта малы бізнес, як правіла, зацікаўлены ў рэалізацыі рызыкоўных ідэй, а вытворца ведаў вельмі часта становіцца ўдзельнікам пераўтварэння сваёй ідэі ў тавар. Тут нам бачыцца найкарацейшы інавацыйны цыкл выкарыстання навуковых распрацовак і атрымання канкурэнтаздольнай прадукцыі. Толькі пры маштабным выкарыстанні навуковых распрацовак, іх пранікненні ў практыку лозунг «Навука — прадукцыйная сіла» напоўніцца матэрыяльным, рэальным зместам, а затраты на яе будуць з лішкам акуплены.

## *Міхаіл ШАВЕЛЬЗОН:*

# «ДЫЯЛОГ ДЗЯРЖАВЫ І ПРАДПРЫМАЛЬНІКАЎ ДАЗВОЛІЦЬ ВЫВЕСЦІ КРАІНУ НА НОВЫ ЎЗРОВЕНЬ»

**Міхаіл Шавельзон з ліку тых людзей, хто ведае эканоміку, як кажуць, знутры. Ён працуе ў недзяржаўным сектары, 10 гадоў з'яўляецца віцэ-прэзідэнтам Беларускага саюза прадпрымальнікаў, а з нядаўняга часу стаў яшчэ і намеснікам старшыні новай структуры — Беларускай канфедэрацыі прадпрымальнікаў.**

**— З якой мэтай створаная структура, што аб'яднала 16 розных па ідэалагічных поглядах арганізацый?**

— Якіх бы палітычных поглядаў ні прытрымліваўся б бізнесмен, кожны хоча мець магчымасць працаваць на дабрабыт уласны і дзяржавы. У нас жа ў апошнія гады склалася такая сітуацыя, калі ўзровень падаткаў для прадпрыемстваў даходзіць да 80 працэнтаў ад чыстага прыбытку. У свеце няма такіх прыкладаў. Не можа такога быць, каб электраэнергія каштавала меней за цеплаэнергію, — гэта супярэчыць законам фізікі. Ненармальна, калі Нацбанк устанаўлівае курс безнаяўнага долара ў 2 разы вышэйшы, чым наяўнага, — гэта б'е па эканоміцы. З 1991 года краіна змагаецца з валютчыкамі, а патрэбна ўсяго 15 хвілін, каб гэты рынак знік. Існуюць эканамічныя тэхналогіі для таго, напрыклад, адзіны курс. Чаму няма валютчыкаў у Прыбалтыцы? Чаму не было іх да крызісу ў Расіі? Таму што існаванне адзінага курса выключае магчымасць развіцця «чорнага» рынку валюты.

Мы ведаем, як змяніць сітуацыю на карысць народа і дзяржавы. Канфедэрацыя — моцная структура, і не лічыцца з яе меркаваннем, напэўна, неразумна. У нас працуюць вопытныя, адукаваныя кадры, галоўнае — практыкі. І яны добра ведаюць эканамічны механізм. Тая сістэма, што склалася сёння, патрабуе тэрміновай карэкцыі. Таму галоўная роля Беларускай канфедэрацыі прадпрымальнікаў — дапамога ўраду, кансультацыі, канструктыўная крытыка. Мы спадзяёмся на дыялог, прыняцце сумесных рашэнняў, бо рухацца ранейшым шляхам больш нельга.

**— Вы сказалі, што ведаеце, як прыйсці да лепшага жыцця. Як?**

— Адразу зазначу, што дасягнуць мэты магчыма не сацыялістычнымі мерамі. Меры жорсткія, пераварочваюць нашу эканоміку з галавы на ногі. Праз паўгода рэспубліка пачне дыхаць па-іншаму. Калі ўсё пакінуць, як ёсць, змены рэальныя гадоў праз сто.

Гэта ж ненармальна, калі ў краіне, дзе магчымасцяў працаваць — безліч, існуе беспрацоўе. Беспрацоўе ўзнікае ад перавытворчасці. Калі будзе створана нармальная эканамічная сітуацыя ў Беларусі, краіне, дзе развітая транспартная сістэма, дзе развітая сфера паслуг, працоўных рук хапаць не будзе. Рэспубліка мае высокі навукова-тэхнічны патэнцыял, адукаваныя кадры. Але калі дзяржава сваімі рычагамі перашкаджае пераліву працоўнай сілы са стратнай сферы ў прыбытковую — тады пачынаецца беспрацоўе. Ёсць шэраг прадпрыемстваў, якія не могуць існаваць у сённяшніх умовах. Іх трэба закрыць, а пашырыць жыццяздольныя. Туды ж накіруюцца і працоўныя. Ад утрымлівання неэфектыўных вытворчасцяў церпяць усе, у першую чаргу самі людзі. Каму даспадобы, калі жывуць за яго сродкі? А ў нас атрымліваецца менавіта так — адзін працуе, а другі жыве за яго грошы.

Неабходна рэфарміраваць падатковую сістэму. Сённяшняя душыць вытворцаў. Падатковыя структуры сёння заяўляюць: 70 працэнтаў суб'ектаў гаспадарання парушаюць падатковае заканадаўства. Хіба гэта не парадокс? Хіба можа быць у дзяржавы такая колькасць ворагаў? Ці не гаворыць гэта аб тым, што існуючы механізм патрабуе ўдасканалення? Нармальна, калі ўзровень парушэнняў дасягае 10-працэнтнай адзнакі. Калі 2-працэнтнай — таксама, значыць, у краіне дзейнічае ліберальнае заканадаўства. Уявіце сабе, у Монта-Карла няма парушэнняў падатковага заканадаўства ўвогуле. Там створана такая сістэма, што ніхто нічога не парушае. У нас жа немагчыма зрабіць крок, каб пры гэтым не пайсці супраць закона. І не па сваёй віне. Проста ўзаемаадносіны паміж суб'ектамі гаспадарання і дзяржаўнымі органамі рэгулююцца мноствам актаў, дакументаў, якія супярэчаць адзін аднаму. Першыя тры гады, калі ў 1987 годзе з'явілася прадпрымальніцтва (тады яшчэ ў Савецкім Саюзе), усё было проста бліскуча. Такога ўсплёску развіцця прыватнага бізнесу гісторыя проста не ведае. Былі некаторыя перакосы, у прыватнасці, лаяльнае падатковае заканадаўства. Гэта шкодзіла справе, выклікала негатыўную рэакцыю ў насельніцтва. Але ж прадпрымальнікі самі прапаноўвалі ўнесці карэктывы. Праўкі былі зроблены, ды так, што з 1994 года ніхто не стаў разбірацца ў існуючай сістэме. Ты яшчэ не ведаеш, мінфінаўскую, нацбанкаўскую ці паперу Падатковага камітэта парушаеш, але дакладна ведаеш, што парушаеш, бо яны не стасуюцца паміж сабой. У такой сітуацыі ніхто не стане інвесціраваць у беларускую эканоміку. А замежны інвестар тым больш. Ці трэба нагадваць пра даўняе рашэнне беларускай улады, калі замежных партнёраў абавязалі пералічваць сродкі ў рублях па курсу дня ўнясення на рахунак? Не ўсе грошы, што прызначаліся для інвесціравання беларускай эканомікі, у выніку «дайшлі» да краіны. Тым самым быў падарваны не толькі наш аўтарытэт, бо гэта ж мы, прадпрымальнікі, заклікалі працаваць сваіх партнёраў у Беларусі. Падарваны тым самым давер да нашай дзяржавы. Паспрабуй цяпер яго аднавіць. Таму мы спадзяёмся на грунтоўную размову з урадам, бо, зноў паўтаруся, мы ведаем на практыцы, як дапамагчы. Ва ўрадзе ёсць адукаваныя спецыялісты, але іх сіл яўна не хапае.

**— Міхаіл Ісакіевіч! Беларускаму прадпрымальніцтву ўжо амаль 12 гадоў. Якая яна — гісторыя прыватнага бізнесу?**

— Пачалося ўсё яшчэ ў СССР у ліпені 1987 года. У парадку эксперыменту былі створаны вытворчыя кааператывы. Іншых тады не было. Праз год прынялі Закон аб кааперацыі. Тым самым выпусцілі джына з бутэлькі — дазволілі займацца ўсім. Тады і нарабілі сабе шмат шкоды, бо, не стварыўшы рынку і не адпусціўшы цэны, далі магчымасць прадпрымальнікам скупіць палову дзяржаўнай уласнасці за капейкі. З распадам СССР у 1991 годзе не толькі разбурыліся гаспадарчыя сувязі. Беларусь стала незалежнай дзяржавай, па сутнасці не маючы кадраў дзяржаўнага ўзроўню. Краіна — гэта значыць свой Нацыянальны банк, свая эканамічная палітыка, свае, ужо дзяржаўныя, інтарэсы. У нас была цудоўная стартавая пазіцыя, лепшая, чым у іншых рэспублік: моцны энергетычны, будаўнічы комплекс, моцная банкаўская сістэма. Беларусь магла стаць тым, чым сталі прыбалтыйскія краіны. Мы ўпусцілі шанц і штогод працягваем губляць каля 1,5 млрд. долараў, прычым гэта вельмі асцярожная лічба. У 1994 годзе прадпрымальнікі падышлі ўшчыльную да сур'ёзнага дыялога з урадам. На паўгода мы кінулі ўсё і пісалі праграму неадкладных мераў па стабілізацыі сітуацыі ў краіне. З ёй былі звязаны нашы надзеі на будучыню Беларусі. Аднак раптам урад перапыніў усялякія зносіны з намі. У выніку краіна атрымала тое, што атрымала. Мы ўсе вінаватыя перад народам за тое, што сёння адбываецца. Усім павінна быць сорамна за існуючыя пенсіі, зарплаты і за гэтыя шалёныя цэны. І мы ўсе абавязаны беларускаму народу, які спакойна і цярпліва чакае лепшых часоў. Адзінае, што мы можам зрабіць, дык гэта правесці рэформы. А таму спадзяёмся на разуменне ўрада і кіраўніка дзяржавы. Прэзідэнт, дарэчы, падчас свайго выступлення на ўстаноўчай канферэнцыі Беларускай канфедэрацыі прадпрымальнікаў расставіў усе акцэнты, і мы бачым зацікаўленасць з яго боку. Таму спадзяёмся, што сумеснымі намаганнямі адолеем гэтую навалу.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**



**Святыня ў бязгрэшных руках** (Ліза Глаз — дачка настаяцеля Багаяўленскай царквы ў Глуску).

**Фота Мікалая ЦІТОВА.**

## «ХРУСТАЛЬНЫ ЧАРАВІЧАК»... ДЛЯ «ЦЫНІІ»

Пачаткам сур'ёзнай дзейнасці творчага салона «Цынія» стаў дзень «Чырвонай змены» ў Смалявічах. Сюды прыехала ў госці культура — у асобе паэтаў Андрэя Скарынкіна, Пятра Русава, Наталлі Кучмель, Дзіяны Балыка, бардаў Аляксандра Пазднякова і Сержа Мінскевіча, спявачак Аксаны Кавалёвай і Аксаны Богун, артыстаў тэатра моды Сашы Варламава.

Алена Калоша, дырэктар творчага салона «Цынія», упэўнена, што творцам, асабліва маладым, зараз неабходная падтрымка гледачоў, а ў правінцыі яны асабліва ўдзячныя. Творчасць павінна адыходзіць ад «тусовачнага» характару і скіроўвацца да людзей, якія дзесьці там, далёка ад сталічнага вэрхалу, паціху трацяць веру ў будучыню і маюць патрэбу ў духоўным адпачынку. Таму салон «Цынія» мае намер і надалей арганізоўваць вечарыны ў правінцыяльных гарадках Беларусі. Акрамя таго, лічыць Алена Калоша, вельмі важна дапамагчы маладым творцам у іх станаўленні. У будучым «Цынія» марыць стварыць сваё выдавецтва, дзе можна было б друкаваць творы таленавітых юнакоў і дзяўчат. А ў Мінску на пачатку будучага года пры ўдзеле салона плануецца правесці свята мастацтваў і прыгажосці «Хрустальны чаравічак».

**Наталля ШЧАСНАЯ.**

# ДЗЯЦІНСТВА БЕЗ БАЦЬКОЎСКАЙ АПЕКІ

**Якое яно на сённяшні дзень і як аб ім клапоціцца дзяржава — размова са Станіславам БУБЕНАМ, галоўным інспектарам па сацыяльнай працы пры Міністэрстве адукацыі Рэспублікі Беларусь.**

**ЗА АПОШНІЯ СЕМ ГАДОЎ КОЛЬКАСЦЬ ДЗЯЦЕЙ, ЗАБРАНЫХ З СЯМ'І ПА РАШЭННЮ СУДА, ПАВЯЛІЧЫЛАСЯ Ў ШЭСЦЬ РАЗОЎ. САЦЫЯЛЬНЫХ СІРОТ У МІНУЛЫМ ГОДЗЕ БЫЛО ВЫЯЎЛЕНА Ў ЧАТЫРЫ РАЗЫ БОЛЕЙ, ЧЫМ У 1990-М. ІНТЭРНАЦКІЯ ЎСТАНОВЫ ПЕРАПОЎНЕНЫЯ, БУДУЮЦЦА НОВЫЯ. І ГЭТА З'ЯЎЛЯЕЦЦА САМЫМ БАЛЮЧЫМ СІМПТОМАМ ХВАРОБЫ ПАД НАЗВАЙ «КРЫЗІС СЯМ'І». ХВАРОБА ПРАГРЭСІРУЕ.**

**— Станіслаў Сямёнавіч, у чым яшчэ праявы таго, што сям'я, як адзінка грамадства, у вялікай бядзе?**

— Павялічваецца колькасць дзяцей-інвалідаў. Становіцца больш дзяцей-бадзяг, жабракоў. Усё часцей дзеці аказваюцца ахвярамі насілля і жорсткасці.

**— Які ж сёння лёс гэтых дзяцей?**

— На працягу апошніх пяці гадоў больш як палова дзяцей адабраных праз суд, або кінутых бацькамі, знайшлі сям'ю. Але гэта не ратоўвае сітуацыю. На месца кожнага перададзенага ў новую сям'ю дзіцяці прыходзяць трое, якія засталіся без бацькоўскай апекі. Таму праблема сіроцтва жыве і квітнее. І пакуль у нас няма якіх-небудзь дзейсных мераў па захаванню сям'і.

Рэзка, на трэць за чатыры гады, зменшылася нацыянальнае, гэта значыць, грамадзянамі рэспублікі, усынаўленне. Жыццё сёння такое, што людзям проста не да ўсынаўлення. Да таго ж у Беларусі менш стала здаровых, прыгожых дзяцей.

Менавіта, каб людзям лягчэй было рашыцца ўсынавіць дзіця, з новага года дзяржава будзе выплачваць такім сем'ям штомесячную дапамогу, якая выплачваецца зараз апякунскім сем'ям. На сёння гэта ад 3 мільёнаў 320 тысяч да 2 мільёнаў 700 тысяч рублёў на адно дзіця.

**— А тыя сем'і, што ўсынавілі ці ўсынавяць дзяцей да першага студзеня?**

— Яны атрымліваць гэтыя грошы не будуць. Толькі тыя, што ўсынавяць пазней гэтай даты. Бо мэта гэтых выплат — актывізаваць нацыянальнае ўсынаўленне. Каб яно не змяншалася, дзяржава не пайшла б на гэтую меру. Таму і пытанняў тут узнікае шмат. Напрыклад, як быць з тайнай усынаўлення? Вырашана ажыццяўляць выплаты толькі са згоды ўсынавіцеля.

**— Як, дарэчы, вы ставіцеся да тайны ўсынаўлення?**

— Адмоўна. Па-першае, гэта парушае правы дзіцяці ведаць імя сваіх бацькоў. Няхай і біялагічных. Па-другое, схаваць назаўсёды гэта немагчыма. Тым болей у такой невялікай краіне, як наша. І чым пазней чалавек дазнаецца праўду, тым яму больш балюча. Ды і для службаў абароны дзяцінства шмат перашкод чыніць гэтае захаванне тайны.

**— Напрыклад, для ажыццяўлення кантролю за сем'ямі, якія ўсынавілі дзяцей?**

— Калі б такі кантроль быў. У нас практычна такога кантролю няма. На жаль, не створаны і органы, якія б ім займаліся. Праект адпаведнага ўказа ляжыць у Адміністрацыі Прэзідэнта ўжо тры гады. Аб тым, што кантроль гэты неабходны, сведчыць той факт, што летась восем усыноўленых дзяцей былі вернуты ў сіроцкія ўстановы.

**— Ці захаваліся сёння чэргі на ўсынаўленне?**

— Чэргаў не было. Быў улік жадаючых па месцы жыхарства бацькоў-кандыдатаў або па месцы знаходжання дзіцячага дома. Зараз створаны Нацыянальны цэнтр усынаўлення, які збірае даныя з усёй рэспублікі: аб тых, хто жадае ўсынавіць, і аб тых, каго можна ўсынавіць, — і гэтыя даныя зводзяцца разам. Такім чынам, зараз на ўліку каля двухсот сем'яў, якія чакаюць магчымасці ўдачарыць нованароджаную дзяўчынку. Гэта па сутнасці і ёсць чарга. Астатнія, хто згодзен на дзіця іншага ўзросту і полу, маглі і могуць прывесці малое ў свой дом.

У цэнтры, дарэчы, працуюць псіхолагі, педагогі і юрысты, каб дапамагчы будучым бацькам хутчэй і лепш прыстасавацца да змен у жыцці пасля таго, як яны забяруць дзіця з прытулку.

**— Гэта сапраўды важна. І не толькі для тых, хто збіраецца ўсынавіць, бо любое дзіця, узятае ці народжанае, цалкам мяняе жыццё, і не заўсёды бацькі падрыхтаваныя да гэтага. Мо таму і распадаюцца сем'і, кідаюць дзяцей або псіхічна калечаць іх.**

— Міністэрства адукацыі зараз распрацоўвае палажэнне аб установах, якія будуць дапамагаць такім сем'ям. Размова ідзе аб сацыяльна-педагагічным цэнтры і сацыяльным дзіцячым прытулку, дзе будзе аказвацца псіхатэрапеўтычная, медыцынская і сацыяльная дапамога дзецям і сем'ям з дзецьмі з групы рызыкі. Тым, каго пазбаўляюць бацькоўскіх правоў, хто злоўжывае алкаголем, хто трапіў у экстрэмальную сітуацыю — канфлікт, злачынства, насілле. Гэткая хуткая сацыяльная дапамога для сем'яў з дзецьмі, якія апынуліся ў бядзе.

**— Дзеці і дарослыя туды будуць прыходзіць самі і знаходзіцца там добраахвотна?**

— Кагосьці будзе накіроўваць школа, кагосьці камісія па справах непаўналетніх ці іншыя арганізацыі. Хтосьці будзе прыходзіць сам. Будуць працаваць тэлефоны даверу і ўвогуле розныя формы кантакту ў залежнасці ад кожнага канкрэтнага выпадку. У рэшце рэшт, падобныя цэнтры і прытулкі павінны стаць гэткімі ж звыклымі, як звычайная школа або дзіцячы садок.

**— Калі яны з'явяцца?**

— Палажэнне будзе падрыхтавана да канца года. Далей усё будзе залежаць ад таго, калі знойдуцца памяшканні.

**— Станіслаў Сямёнавіч, вяртаючыся да тэмы ўсынаўлення, скажыце, ці аддаюць зараз дзяцей у іншаземныя сем'і?**

— Аддаюць. Марудна, цяжка, але працэс ідзе. У адрозненне ад нацыянальнага ўсынаўлення, тут мы сочым за лёсам кожнага дзіцяці. Раз у паўгода збіраем справаздачы з усіх краін, дзе жывуць усынавіцелі.

**— Ці ёсць дзеці, якім за мяжой не пашанцавала?**

— Акрамя ўсім вядомага выпадку ў Швецыі, не.

**— Як склаўся лёс той дзяўчынкі, якая падверглася насіллю з боку свайго прыёмнага шведскага таты?**

— Яе ўдачарыла іншая шведская сям'я. Дзяўчынка атрымала 35 тысяч долараў за нанесеную ёй маральную шкоду. Яе новая маці прыязджала ў Мінск.

Усяго толькі сем працэнтаў з усіх усыноўленых жывуць за мяжой. Па нашай інфармацыі, усе яны шчаслівыя і знайшлі сваю сям'ю.

**— Хацелася б, каб сваю сям'ю і шчасце знайшлі ўсе астатнія. І каб новых сірот не з'яўлялася. Ці адбудзецца гэта?**

— Напэўна, не хутка, але тое, аб чым мы гаварылі, добрыя, цывілізаваныя крокі да гэтага.

**Гутарку вяла Вольга МЯДЗВЕДЗЕВА.**

## Расце МСБ — растуць дапамогі

Як паведамілі «Звяздзе» ў Міністэрстве сацыяльнай абароны, у сувязі са змяненнем памеру мінімальнага спажывецкага бюджэту з 23 кастрычніка больш чым у 1,2 раза ўзрасла аднаразовая дапамога па нараджэнню дзіцяці. Цяпер гэтая дапамога складае 3 млн. 775 тыс. рублёў.

У такім памеры аднаразовая дапамога па нараджэнню дзіцяці будзе выплачвацца да студзеня, калі плануецца правесці чарговы пераразлік МСБ. Дарэчы, да таго ж студзеня павінны быць зацверджаны і новыя памеры штомесячнай дапамогі сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей, на наступны 1999 год.

**Сяргей ГРЫБ.**

## ЗЛАДЗЕІ І РАЗБОЙНІКІ АДСТУПАЮЦЬ

***Забойцы, вымагальнікі і фальшываманетчыкі наступаюць***

**Як паведаміў падчас нядаўняй прэс-канферэнцыі Генеральны пракурор Беларусі Алег БАЖЭЛКА, за 9 месяцаў гэтага года ў нашай краіне зарэгістравана 90 тысяч злачынстваў, што на 5,5 працэнта менш, чым за аналагічны перыяд года мінулага.**

У прыватнасці, сёлета на 15 працэнтаў зменшылася колькасць крадзяжоў, на 14 працэнтаў — колькасць грабяжоў, на 11 працэнтаў — разбойных нападаў.

Даволі актыўна ў гэтым годзе вядзецца барацьба з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй. Праваахоўнымі органамі выяўлена больш за 2,5 тысячы злачынстваў такога кшталту. Да крымінальнай адказнасці прыцягнута 450 удзельнікаў арганізаваных злачынных груп, у тым ліку 128 злачынных лідэраў.

І ўсё ж крымінагенная сітуацыя ў Беларусі застаецца даволі складанай. Напрыклад, у гэтым годзе амаль удвая павялічылася колькасць фактаў вымагання (зарэгістравана 630 такіх злачынстваў), учынена 905 наўмысных забойстваў, што на 6,2 працэнта больш, чым летась, на 12 працэнтаў павялічылася колькасць фактаў вырабу і збыту падробленых грашовых купюр.

**Мікола ДЗЯБЁЛА.**

## ТАК МОЖНА ТРАПІЦЬ І Ў «ТУРЭМНЫЯ» УНІВЕРСІТЭТЫ

Бабруйскай міжгарнізоннай пракуратурай узбуджана крымінальная справа супраць галоўнага бухгалтара гандлёвага прадпрыемства «Ваенсервіс» К.

Згодна з матэрыяламі крымінальнай справы К. незаконна пераявіла з рахунку прадпрыемства 18,9 мільёна рублёў за сваё навучанне ў Дзяржаўным эканамічным універсітэце. Не выключана, што ў хуткім часе прадпрымальнаму бухгалтару давядзецца прайсці праз «турэмныя» універсітэты.

## ОПЕРУПАЎНАВАЖАНЫ АБВІНАВАЧВАЕЦЦА Ў ВЫМАГАННІ

Пракуратурай Гомельскай вобласці арыштаваны оперупаўнаважаны крымінальнага вышуку Цэнтральнага РАУС Гомеля Ш. Міліцыянер абвінавачваецца ў вымаганні і атрыманні хабару ў памеры 1,5 тысячы долараў ЗША. Адметна, што грошы оперупаўнаважаны патрабаваў у аднаго з жыхароў Гомеля за садзейнічанне ў вяртанні ўкрадзенага аўтамабіля «Аудзі-80».

**Аляксей ТАРАНАЎ,**
**начальнік прэс-цэнтра Пракуратуры Беларусі.**

## ЖЫЦЦЁ ЗА ЦЫГАРЭТУ І БУТЭЛЬКУ ГАРЭЛКІ

Два тыдні таму на тэрыторыі Першамайскага раёна горада Бабруйска быў знойдзены з адкрытай чэрапна-мазгавой траўмай труп пенсіянера. Супрацоўнікі РАУС знайшлі віноўнікаў смерці пажылога чалавека. Імі аказаліся трое маладых людзей 19-20 гадоў — калгаснік і два навучэнцы ПТВ. Увечары яны спынілі пенсіянера і папрасілі ў яго закурыць, той адказаў: няма цыгарэтаў. За гэта хлопцы моцна збілі старога і ён у выніку атрыманых траўмаў памёр.

Амаль аналагічнае здарэнне адбылося днямі ў Цэнтральным раёне. Каля 18 гадзін вечара ля магазіна трое мужыкоў даволі салідная ўзросту збілі пенсіянера і забралі ў яго бутэльку гарэлкі. Аматары выпіць любой цаной затрыманы, а пажылы чалавек, дзякуй Богу, застаўся жывы.

**Ілона ІВАНОВА.**



Малюнак Аркадзя САЛТЫКОВА.

# «ЗАКАЗ», ЯКІ НЕ ЗДЗЕЙСНІЎСЯ

**Хвойны лясок, што акружае тэрыторыю звычайнага заводскага пансіяната ў адным з раёнаў Мінскай вобласці, шуміць на ветры. Калі ўважліва прыслухацца, дык дрэвы нашэпчуць вам гісторыю пра крывавую трагедыю, якая павінна была здарыцца тут, але, на шчасце, не здарылася. Удзельнікам крымінальнай драмы давялося прызнацца ў сваіх намерах супрацоўнікам службы па прафесійнай крымінальнай злачыннасці УАП па Мінскай вобласці.**

**Пралог жа быў празаічны — у лячэбную ўстанову назначылі новага галоўнага ўрача.**

... Калі Ігар Міцін, які зарабляў на хлеб на сціплай пасадзе загадчыка аддзялення санаторыя, даведаўся летась пра свой перавод у іншае месца і павышэнне, ён узрадаваўся. Першыя тыдні пайшлі на адаптацыю ў калектыве, дзе даўно склаліся ўстойлівыя традыцыі і ўзаемаадносіны. Толькі адзін чалавек затаіў чорную зайздрасць да навічка.

У медаддзел буйнога прамысловага сталічнага гіганта, якому належаў пансіянат, дзе адбываліся ўсе гэтыя падзеі, аднойчы прыйшла скарга ад Андрэя Максімавіча Ігнатовіча, намесніка галоўурача па адміністрацыйна-гаспадарчай частцы. «Прашу разгледзець мэтазгоднасць знаходжання на пасадзе... таму што ёсць у дастатковай колькасці факты, што сведчаць аб яго непрафесіяналізме і халатнасці», — гаварылася ў паперы. Скаржнік настойліва патрабаваў прыезду ў іх «цьмутаракань» строгіх кантралёраў, здольных стукнуць кулаком па стале і ўтаймаваць гэтага выскачку Міціна.

Аўтар «петыцыі» працаваў на Лагойшчыне ўжо чатыры гады і лічыўся адным са старажылаў установы. У цэлым свае абавязкі ведаў: «прабіць» што-небудзь для гаспадаркі — няма праблем. Ну і да «беленькай», праўда, Ігнатовіч быў неабыякавы — даволі часта адзначаў вытворчыя поспехі ў светлы час сутак. Можа, менавіта з-за гэтага пачаліся сваркі паміж ім і новым галоўурачом.

— Не падабаецца мне такі дзелавы «гусь», строіць з сябе немаведама што, — дзяліўся з сябрамі намеснік па гаспадарчай частцы.

Міцін таксама амаль адразу ж адзначыў нелюбоў да ўласнай персоны з боку «Максімыча». Прычым зачапіла яна самыя тонкія струны душы Ігара. «Вось узнікне на дарозе такі — непрыемнасцяў не абярэшся. Перашкаджае ён мне, ой перашкаджае!» — пасля кожнага канфлікту думаў начальнік пра «правую руку». — Як бы пазбавіцца ад гэтага шкоднага старога?» І пачалася «вайна» непрымірымых калег-ворагаў. У вышэйстаячыя інстанцыі пасыпаліся кампраматныя лісты аднаго на другога; камісіі з Мінска толькі паспявалі разабрацца з адным, а на гарызонце ўжо маячыла другое. А колькі было ўзаемных «падколак» на рабочым месцы! Галоўурач не раз прабіраў намесніка на планёрках за розныя дробязі; Ігнатовіч, дзякуючы вопыту, нярэдка ставіў галоўнага ў няёмкае становішча перад падначаленымі.

Калі цярпенне правяраючых лопнула, выклікалі абодвух у заводскі медаддзел і строга сказалі: «Мужыкі, калі не памірыцеся, «паляціце» з пасад абодва!» Пасля гэтага ультыматуму страсці ў пансіянаце крыху сціхлі. Але зацішша працягвалася нядоўга, таму што адмоўныя эмоцыі патрабавалі выйсця. Пазней высветлілася, што больш злосці ў «салодкай парачцы» затаіў Ігар Уладзіміравіч.

Праз год пасля прыходу ў пансіянат Міцін вырашыў заняцца рэалізацыяй важнага пункта асабістых жыццёвых планаў — паляпшэннем сямейнага бюджэту. Агульнавядома, што цяпер, каб пратрымацца на плаву, не абысціся без якой-небудзь камерцыйнай ініцыятывы. Вось і слуга Гіпакрата пры першай жа магчымасці вырашыў акунуцца ў свет бізнесу. Знаёмая дзяўчына пазнаёміла яго са сваяком Саньком, які прапанаваў заняцца на тэрыторыі пансіяната нечым накшталт вырошчвання агародніны ў цяпліцах.

— Выдатна, Аляксандр, па руках. Ёсць, на мой погляд, маленькая праблемка, пра якую я скажу табе пазней. Заходзь да мяне ў пятніцу раніцай.

Гаворачы гэта, урач успомніў пра Ігнатовіча. І не дарэмна — каб запусціць прадпрымальніцтва, без намесніка па гаспадарчай частцы не абысціся. Ігар падумаў, што той, пачуўшы пра грашовую мару шэфа, напэўна знойдзе спосаб уставіць палкі ў колы, а то і на лаву падсудных загоніць. «Усё — час рассякаць гордзіеў вузел. Мае праблемы знікнуць толькі са знікненнем «тормаза», — настойліва застукала ў галаве думка.

Сустрэча будучых кампаньёнаў, якая адбылася раніцай у пятніцу, стала пачаткам злачынства. Задума забойства была агучана.

— Вось у чым загвоздка. У нас працуе чалавек, які «падсячэ» нашу справу на корані. Знайдзі, калі ласка, адчайнага хлопца, які будзе згодны «замачыць» Ігнатовіча. Ведаеш такога?

Саня Антоненка, кіўнуўшы галавой, задумаўся. Пасля паўзы ён выціснуў з сябе:

— Уладзіміравіч, вы, канешне, разумееце, што прапануеце. Сам я не адважуся на «макруху», але кілера знайду. Мы — дзелавыя людзі. Колькі плаціце?

Заказчык забойства ў адказ кінуў на стол чатыры «зялёныя» соценныя купюры. «Прывядзеш выканаўцу — дам столькі ж, а пасля справы сума падвоіцца», — рысаваўся перад наведвальнікам Ігар, які, паскробшы па хатніх засеках, назбіраў на выкананне небяспечнай задумкі 1600 долараў. Ён не ўлічыў самага важнага — працягнуў у «крымінал» практычна першага, хто трапіўся.

Неўзабаве Антоненка прывёў патэнцыяльнага злачынцу, які згадзіўся за «баксы» ў ціхім месцы зарэзаць намесніка, што так надакучыў галоўурачу. Мішка Гурэвіч, на выгляд даволі хмуры тып, атрымаўшы задатак, расхрабрыўся: «Канешне, заказ выканаю. Выбірайце, дзе і як яго забіць, — спосабаў жа шмат».

Чым бліжэй быў назначаны дзень «ікс», тым больш трэсліся паджылкі ў Сашы і Мішы. Не такія яны ўжо былі гангстэры.

З пачатку ліпеня да сярэдзіны жніўня «забойцы» вадзілі за нос Міціна, знаходзячы розныя адгаворкі і адцягваючы час выканання крывавага заказу. За гэты час яны здолелі выцягнуць з яго астатнія восем «соцень», а нічога не падазраваўшая ахвяра ўсё яшчэ хадзіла па лясных сцежках, удыхаючы гаючае сасновае паветра. Ігар Уладзіміравіч не на жарт занерваваўся і нават спалохаўся.

Аператыўнікі абласнога ўпраўлення па аргзлачыннасці, атрымаўшы інфармацыю аб забойстве, якое рыхтуецца, усе напружаныя дні ўважліва адсочвалі сітуацыю. Міліцыя ў любы момант была гатова ўмяшацца, каб перахапіць руку зламысніка з нажом. Калі стала ясна, што забойства, хутчэй за ўсё, не адбудзецца, уопаўцы пайшлі на нетрадыцыйны крок — затрымалі кампанію зламыснікаў.

У выніку правільна праведзеных допытаў і камбінацый былі даказаны злачынныя задумы галоўурача, факты перадачы грошай за паслугу, якая, на шчасце, так і не ажыццявілася. Мінскімі абласнымі УОП і пракуратурай узбуджана і гатова да перадачы ў суд крымінальная справа па фактах падбухторвання і спробы замаху на забойства. Як прызнаўся адзін з аператыўнікаў, упершыню ў яго багатай практыцы адбыўся выпадак, калі ўдалося прадухіліць(!) заказное забойства.

**Сяргей ХРЫПАЧ.**

**P.S.** Прозвішчы «галоўных герояў» па зразумелых прычынах зменены.

## ВЫПІВАЎ ПЕНСІЯНЕР З МАЛАДЗІЦАМІ

**А тыя былі болей чым у два разы маладзей за яго і, як таму падалося, жадалі пазнаёміцца з ім бліжэй.**

А хто супраць, падумаў пенсіянер слыннага горада Рэчыца, і ўсё падліваў і падліваў маладзіцам спіртнога. І калі тыя ўжо набраліся, як кажуць у народзе, «пад самую завязку», ён пайшоў у слоўную «разведку». Ды на нейкім крутым «павароце» зрабіў неасцярожны крок. Што тут пачалося! Маладзіцы так расхадзіліся, што раз-пораз пасылалі дзеда ў накдаун, нягледзячы на тое, што ён спрабаваў пайсці ў глухую абарону. І ўсё ж пенсіянер не здаваўся, спадзеючыся перахапіць ініцыятыву. Ды не ўдалося, бо хуліганкі пусцілі ў ход нож і нанеслі яму раненні ў плячо і грудзі, пашкодзілі вену. Усё, накаўт. Пераможцы на гэтым не супакоіліся і па ваенных законах патрабавалі ад дзеда кантрыбуцыі. І калі той знясілена крутнуў галавой (маўляў, фігу вам), тыя вышкраблі ў яго два мільёны рублёў і ланцужок з крыжыкам. Дзед звярнуўся ў міліцыю толькі праз паўтара сутак, і тая ў ходзе аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў затрымала зламысніц. Імі аказаліся дзве беспрацоўныя з Рэчыцы і вёскі Азершчына.

## ХТО ЎКРАЎ КАРЦІНЫ?

**На гэта нялёгкае пытанне трэба будзе даць адказ работнікам мазырскай міліцыі. Нялёгкае таму, што ўпушчаны дарагі час.**

Мяркуйце самі. Яны (27 карцін мастака Н. Дубрава) зніклі з мясцовай майстэрні камбіната мастацтваў у красавіку гэтага года. А заява аб крадзяжы была зроблена ў міліцыю толькі 21 кастрычніка. Непаразуменне нейкае...

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**



Малюнак Леаніда РАЗЛАДАВА.

ФЕЛЬЕТОН

# І свішча, і малоціць аглобля...

Іван Дзмітрыевіч Фядотаў сядзеў у сваім кабінеце і пільна ўглядаўся ў столь. У яго галаве круціліся думкі: туды-сюды, туды-сюды. Што азначала: ідзе напружаная творчая работа. Нараджаецца прынцыпова новая, можна нават смела сказаць, рэвалюцыйная канцэпцыя ўздзеяння на тую масу працаўнікоў сельскай гаспадаркі, якія «прырабляюць ногі» калгаснай маёмасці.

У кабінет асцярожна зазірнула сакратарка і тут жа спалохана шмыганула назад. Здагадалася, што творчы працэс шэфа тармазіць ну аніяк нельга. Краем вока заўважыўшы сакратарку, старшыня калгаса ўдзячна кіўнуў ёй за такое патрэбнае разуменне, бо якраз у гэта імгненне яго тэарэтычныя выкладкі наконт наладжвання парадку на вытворчасці дасягнулі апагея. Яны прабіралі, лупцавалі і раскладвалі на лапаткі заканатворцаў. Кабінетныя чыноўнікі і дылетанты! Ды вам жа лікбез прайсці трэба! Ды вы ж характару і душы простага чалавека працы не ведаеце! Яму, калі ён што парушыць, вашы прадугледжаныя законам ці прыкладным статутам калгасаў заўвагі, вымовы, строгія вымовы, перавод на ніжэйаплатную работу на тры месяцы або звальненне з займаемай пасады — нібы шраціна для слана. Кажаце, маецца яшчэ і такая мера выхавання і пакарання, як папярэджанне аб выключэнні з калгаса і само выключэнне з яго? Ёсць, ёсць такое. Ды яно толькі на карысць парушальніку. Бо той у фермеры пасля падацца можа — і няньчы тады яго. Зямлю выдзелі, тэхнікай дапамажы. І гэтак далей, і да таго падобнае. Не, паважаныя спадары дылетанты, тут аглобляй, фінансавай аглобляй дзейнічаць трэба.

Разбіўшы ў палкай дыскусіі сваіх нябачных апанентаў-заканатворцаў, Іван Дзмітрыевіч затым пачаў збіраць праўленні гаспадаркі. Адно, другое, трэцяе... І прымяняць свае высновы на практыцы, бо яны, на яго думку, павінны былі паставіць з галавы на ногі ўсю існуючую сістэму пакарання рознага роду парушальнікаў. І квінтэсенцыяй гэтай рэвалюцыйнай ідэі тут было спагнанне з іх так званай упушчанай выгады ў спалучэнні з празмернымі штрафамі. Вось як гэта выглядала на практыцы.

Валянціна Гузава і Вера Бурачкова ўкралі ў калгасе па пуду бульбы. Праўленне пеканула іх штрафам. Па мільёну рублікаў. А трактарыст Міхаіл Кузьмянкоў не выканаў зададзены аб'ём работ, што павінна было прынесці пэўную выгаду калгасу, — з яго ўтрымаць 383400 тых рублікаў. Дапусціў грэх другі раз — няхай гоніць ужо 1800 тысяч «зайцаў». Карацей кажучы, тая фінансавая аглобля пачала малаціць па кішэнях людзей, вытрасаць з іх грошыкі: з В. Клімава — 600 тысяч, з М. Сідарава — 1500 тысяч, з В. Яжова — два мільёны рублёў. І г. д. і да т. п. Заскуголілі, заенчылі ад такой жорсткасці мужыкі ды бабы, аднак Іван Дзмітрыевіч зрабіў намёк, што яшчэ не тое будзе.

А калі ў галаву кагосьці з праўленцаў прыйшла думка, што ўсё гэта самаўпраўства старшыні, якое пярэчыць і працоўнаму заканадаўству, і прыкладнаму статуту калгасаў, ён не асмеліўся заявіць аб гэтым: крый Божа, выклікаць на сябе гнеў кіраўніка. Яшчэ, калі хочаш, і на яго галаву абрушыцца гэтая кара.

Тым часам Іван Дзмітрыевіч, які прыняў калгас «Юбілейны» ў Буда-Кашалёўскім раёне з адказнай пасады ў суседняй Рагачоўшчыне, ужо прыкідваў, што яго смелую арыгінальнасць як тэарэтыка і практыка ў барацьбе з недахопамі цалкам можна аформіць заяўкай на вынаходніцтва рэспубліканскага маштабу. Аднак тут здарылася непапраўнае. Асечка! Чортава асечка! Тыя ж самыя меры прымяняюць і ў іншых гаспадарках Буда-Кашалёўшчыны — калгасе імя Калініна, эксбазе «Уваравічы», саўгасах «Рагінь» і імя Галавачова. А ў саўгасе імя Чапаева Кармянскага раёна, дзе дырэктарам Аляксандр Драчоў, дык нават пераплюнулі яго, Івана Фядотава. А менавіта: там у калектыўны дагавор унеслі такую «изюминку»: калі нехта нешта недзе ўкрадзе і некуды павалачэ і яго «засякуць» — крый Божа, каб аб гэтым дазналася міліцыя. Засудзяць тады чалавека, а хто будзе прымнажаць здабыткі гаспадаркі?

Проста закону — «адлуп», а злодзей няхай у дзесяцікратным памеры кампенсуе той урон. І яму будзе, лічы, добра, і гаспадарцы прыемна. Бо ён яшчэ і заяву такога зместу накрэмзае: паважаны Аляксандр Ягоравіч, прашу пералічыць спагнаную з мяне суму ў фонд развіцця роднага саўгаса. І будзе маўчаць, шызы галубочак. Бо калі ён толькі заікнецца, што ў адпаведнасці з Кодэксам закона аб працы Рэспублікі Беларусь спагнанню падлягае толькі прамы сапраўдны ўрон ад крадзяжу, а недаатрыманыя даходы (як у гаспадарках Буда-Кашалёўскага раёна) не ўлічваюцца, дык і кіраўніцтва саўгаса адпаведным чынам адрэагуе. Перадасць справу ў міліцыю.

І будзе той шызы галубочак у турме на нарах нішчымную баланду хлябаць. А гэта, пагадзіцеся, куды горш, чым быць на волі, хаця і без грошай, без сродкаў да існавання. Бо кампенсацыя таго ўрону ў дзесяцікратным памеры часта перавышае памеры зарплаты, якая выплачваецца са спазненнем. Вазьміце, напрыклад, вартаўніка Федзю Вараб'ёва. 5400 тысяч рублёў гаспадарка спаганяе з яго за крадзеж. Крута? Мабыць, так. Але ж гэта родненькі саўгасны закон. І яго выконваць трэба.

Калі аб тым, што я тут расказаў, даведаўся дырэктар саўгаса «Дубавіцкі» Буда-Кашалёўскага раёна Васіль Васільевіч Кабаеў, ён усклікнуў:

— Мелка плаваеце, Іван Дзмітрыевіч і Аляксандр Ягоравіч! Эфект ад вашых навацый можа і ёсць, ды невялікі. Бо як былі ў вас недахопы, так і засталіся. А я выкараняю іх інакш. Прыклады? Калі ласка. Недысцыплінаванаму трактарысту Мікалаю Шаранку я выдзеліў у якасці пакарання ўчастак меліярацыйнага канала даўжынёй адзін кіламетр. Няхай ачышчае яго ад кустоўя ды пырніку ў свой нерабочы час. Во як!

Асабіста ў мяне няма сумнення, што наватарска-рэвалюцыйныя падыходы Фядотава, Драчова, Кабаева і іншых кіраўнікоў гаспадарак Гомельшчыны ў барацьбе за парадак у іх будуць золатам упісаны ў гісторыю краіны. І гэтак жа шчодра ўзнагароджаны адпаведнымі вышэйстаячымі інстанцыямі, куды пракурорскія работнікі па прычыне відавочнага ўшчамлення правоў грамадзян паслалі свае пратэсты і прадстаўленні, патрабуючы вярнуць людзям незаконна ўтрыманыя грошы.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

# «ШЧЫРАЮ РУКОЮ РУЧНІК ВЫШЫВАЛА»

**Унікальная нацыянальная выстава «Беларускі ручнік» гэтымі днямі праходзіць у Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі. Беларускія ручнікі ў такім аб'ёме і такой шматвобразнасці яшчэ ніколі не былі сабраны ў адным месцы. Дзякуючы намаганням Міністэрства культуры, Інстытута праблем культуры, Нацыянальнага музея гісторыі і культуры і дзесяці іншых беларускіх музеяў, якія прадаставілі свае зборы, сабрана больш як паўтысячы ручнікоў з усіх рэгіёнаў краіны.**

— Выстаўка завяршае цэлы шэраг мерапрыемстваў навукова-культурнай праграмы «Беларускі ручнік». У гэтай праграме былі задзейнічаны музеі, абласныя і раённыя навукова-метадычныя цэнтры і шмат розных людзей. Мы хацелі ўзняць той скарб, якім валодаем, — нашы ручнікі, не толькі як творы народнага мастацтва ці музейныя экспанаты, а як жывую з'яву народнай культуры, як атрыбут жыцця, што мае глыбінны сэнс, увасабленне народнага светапогляду, густу і таленту, — расказала навуковы супрацоўнік Інстытута праблем культуры кандыдат мастацтвазнаўца Вольга Лабачэўская, якая стала адным з галоўных складальнікаў гэтай выставы. — Ручнік нельга разглядаць толькі з утылітарнага ці дэкаратыўнага пункту гледжання. Ён звязаны з усім цыклам абрадаў, у першую чаргу сямейных, ён спадарожнік беларуса ад нараджэння да смерці.

У ходзе выканання гэтай праграмы ў раённых і абласных цэнтрах праводзіліся выставы ручнікоў, розныя святы і конкурсы на лепшы ручнік. І ўрэшце на нацыянальнай выставе мы можам пабачыць усё багацце гэтага віду старажытнай народнай творчасці, што ўвасобіў у сабе і ткацтва, і вышыўку, і арнамент.

На выставе ў нацыянальным музеі можна выразна пабачыць, чым адрозніваюцца ручнікі ў розных рэгіёнах, колькі ёсць іх асаблівых тыпаў і якія разнастайныя ўзоры на іх. Навукоўцы, у прыватнасці, налічылі каля 50 лакальных тыпаў беларускага ручніка. Кожны з іх звязаны з канкрэтным родам, традыцыямі абшчын, што жылі на пэўнай тэрыторыі. Паласатыя бела-чырвоныя ручнікі Заходняга Палесся, арнаментаваныя ручнікі Падняпроўя, дзе найбольшая іх разнастайнасць, раслінныя арнаменты на ручніках Паазер'я, поўначы Беларусі, шэра-белыя паліхромныя ручнікі Панямоння... Гэта цэлая мазаіка, якая паказвае, наколькі багатая, глыбінная і старажытная культура беларускага народа. А яшчэ не падобныя ні на якія іншыя ручнікі са стараверскіх вёсак, і відавочны ўплыў культуры суседніх народаў, які таксама можна прасачыць па тых жа ручніках...

На некаторых ручніках, выробленых у пачатку стагоддзя, разам з арнаментамі і вышыўкай з'явіліся і надпісы. Напрыклад, майстрыха Марыя Швайкіна ў 1907 годзе на сваім ручніку, сапраўды шыкоўным і вытанчаным творы, напісала: «Шчырою рукою рушникъ вишивала, и щастья для тебе у Бога прахала». Рушнік гэты, пэўна, быў прызначаны каханаму...

Сярод іншых экспанатаў асаблівае ўзрушэнне выклікае калекцыя так званых «чарнобыльскіх ручнікоў», якія на працягу дзесяці апошніх гадоў былі сабраны Музеем старажытнай беларускай культуры ў адселеных вёсках Гомельшчыны. У асноўным гэта закладныя (ахвярныя) ручнікі з Брагінскага раёна. На выставе яны павязаны на крыжы-абярогу. На некаторых з іх звычайная чырвона-белая колеравая гама заменена на чырвона-чорную, што не ўласціва для традыцыйнай мастацкай культуры беларусаў. Ручнікі гэтыя былі вытканы ў трыццатых гадах нашага стагоддзя. «Гэта як прадчуванне бяды, катастрофы...»,— такую больш эмацыянальную, чым навуковую думку на гэты конт выказала Вольга Лабачэўская. І сапраўды, ручнікі выклікаюць шмат эмоцый.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

## Правяраюцца абставіны надзвычайнага здарэння на дарозе Магілёў—Чэрыкаў

**Сродкі масавай інфармацыі паведамілі аб дарожна-транспартным здарэнні, якое адбылося 2 лістапада на аўтадарозе Магілёў—Чэрыкаў у калоне машын з прэсай і іншымі ўдзельнікамі мерапрыемстваў у рамках візіту Аляксандра Лукашэнкі ў Чэрыкаўскі раён.**

Нагадаем, што джып «Міцубісі-Паджэра» з расійскімі нумарамі ўклініўся ў калону і абганяў адну машыну за другой. Нарэшце нахабны вадзіцель вырашыў абагнаць першы ў калоне аўтобус, каб апынуцца акурат за машынай суправаджэння ДАІ. У выніку такога манеўру сутыкнуліся тры аўтамабілі: «Форд-Транзіт» і мікрааўтобус, у якіх ехалі журналісты нацыянальнай тэлерадыёкампаніі, карэспандэнты рэспубліканскіх (ваш карэспандэнт таксама была там) і абласных выданняў, а таксама і джып. Аўтамашыны атрымалі механічныя пашкоджанні, а вось аўтамабіль віноўніка аварыі якраз і не пацярпеў. Сам вадзіцель пасля здарэння паводзіў сябе з алімпійскім спакоем і нават абыякава.

Як паведаміў прэс-цэнтр упраўлення ўнутраных спраў Магілёўскага аблвыканкама, аўтамабілем «Міцубісі-Паджэра» кіраваў па даверанасці жыхар горада Сургут Цюменскай вобласці. Як стала вядома карэспандэнту «Звязды», у сваім тлумачэнні «круты» расіянін напісаў аб тым, што бачыў: ідзе калона ў суправаджэнні ДАІ, але жадаў абагнаць машыну дзяржаўтаінспекцыі. Віноўнік дарожна-транспартнага здарэння затрыманы, а «Міцубісі-Паджэра» пастаўлена ў двары Чэрыкаўскага раённага аддзялення міліцыі. Па афіцыйна не пацверджаных звестках, жыхару Сургута прапанавана кампенсаваць урон, нанесены ягонымі дзеяннямі. Калі расіянін адмовіцца, то страты будуць вернуты грашыма, выручанымі ад продажу джыпа. Нагадаем таксама, што акрамя двух аўтамабіляў была пашкоджана камера брыгады АТН Беларускага тэлебачання, якая каштуе некалькі дзесяткаў тысяч долараў.

**Ілона ІВАНОВА.**

## Знаёмцеся: новыя пасёлкі Беларусі — Альба і Лес-Гай

**У рэспубліцы пачала працаваць Тапанімічная камісія пры Савеце Міністраў краіны, якая была створана згодна з пастановай Саўміна, прынятай у жніўні гэтага года. Адна з яе задач — каардынацыя дзейнасці рэспубліканскіх органаў кіравання, звязанай з зацвярджэннем назваў геаграфічных аб'ектаў.**

Прапановы мясцовых органаў улады па змяненню назваў аб'ектаў будуць разглядацца не радзей аднаго разу ў квартал. На першым пасяджэнні камісіі, што адбылося не так даўно, было прынята рашэнне аб присваенні пасёлку Біязавода, што ў Нясвіжскім раёне, назвы «пасёлак Альба». Мілагучнае «імя» атрымаў і безыменны пасёлак пад нумарам 55 у Дзяржынскім раёне — Лес-Гай. Такую назву сваёй малой радзіме далі мясцовыя жыхары. Пры зацвярджэнні новых назваў геаграфічных аб'ектаў камісія ўлічвае і меркаванне грамадскасці.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**



## У ЦЭНТРВЫБАРКАМ ПЕРАДАДЗЕНЫ СПІСЫ ІНІЦЫЯТЫЎНАЙ ГРУПЫ ПА ПРАВЯДЗЕННЮ АГУЛЬНАРЭСПУБЛІКАНСКАГА РЭФЕРЭНДУМУ АДНОСНА СТВАРЭННЯ РАСІЙСКА-БЕЛАРУСКАЙ КАНФЕДЭРАЦЫІ

Як паведаміў кіраўнік ініцыятыўнай групы, старшыня беларускай Ліберальна-дэмакратычнай партыі Сяргей Гайдукевіч, у групу ўвайшло 1177 чалавек, якія прадстаўляюць 78 гарадоў рэспублікі. Пры гэтым лідэр ЛДП падкрэсліў, што сам ён у дадзеным выпадку выступае толькі як грамадзянін рэспублікі.

На думку С. Гайдукевіча, стварэнне беларуска-расійскай канфедэрацыі наогул не азначае страты Беларуссю суверэнітэту. Падобная форма аб'яднання, як лічыць лідэр ЛДП, адпавядае статуту Саюза Беларусі і Расіі і толькі дазволіць зрабіць больш дакладнай і закончанай яго структуру. Сяргей Гайдукевіч лічыць таксама, што ініцыятыва па правядзенню рэферэндуму знойдзе падтрымку як у Беларусі, так і ў Расіі. «Палітыкі, — заявіў С. Гайдукевіч, — павінны быць нам удзячныя за тое, што мы робім іх працу і пры гэтым не бяром у дзяржавы ні капейкі грошай».

Нагадаем, што, згодна з Канстытуцыяй Беларусі, ініцыіраваць рэферэндум маюць права прэзідэнт, Нацыянальны сход і грамадзяне рэспублікі шляхам збору 450 тысяч подпісаў.

**Юрый ПАЦЁМКІН, БелаПАН.**

# СУСВЕТНЫ БАНК АДМАЎЛЯЕ БЕЛАРУСІ Ў ПАЗЫКАХ

## Тым часам місія МВФ абмяркоўвае магчымасць кампенсацыйнага крэдыту Беларусі

Пасля нядаўняга гадавога сходу Савета дырэктараў Сусветнага банка і Міжнароднага валютнага фонду адносіны паміж гэтымі фінансавымі арганізацыямі і Беларуссю ажывіліся.

Аднак гаварыць аб іх канкрэтным плёне пакуль рана. Сусветны банк і МВФ сёлета панізілі ўзровень свайго прадстаўніцтва ў Беларусі ў сувязі з неналежным, на іх погляд, ходам эканамічных рэформаў у нашай краіне. Аднак размова аб згортванні адносінаў зусім не ішла і не ідзе.

Пацвярджэннем таму трохдзённы візіт у Беларусь віцэ-прэзідэнта Сусветнага банка па рэгіёну Еўропы і Цэнтральнай Азіі Йаханеса Ліна. З 1 па 3 лістапада пан Лін правёў сустрэчы з кіраўнікамі беларускага ўрада, Нацбанка, Адміністрацыі Прэзідэнта, пабываў на прадпрыемствах дзяржаўнага і недзяржаўнага сектара эканомікі. Гэта быў ягоны першы візіт у Беларусь. Як зазначыў ён сам, беларускі ўрад запрасіў яго, маючы на ўвазе свой інтарэс у атрыманні новых крэдытаў ад Сусветнага банка.

— Мы абмяркоўвалі гэтае пытанне з кіраўніцтвам урада, і я паўтарыў нашу пазіцыю, што Сусветны банк цяпер не можа аднавіць прадастаўленне Беларусі пазык, пакуль урад не забяспечыць прагрэс у лібералізацыі валютнага рынку. Тым не менш, мы захаваем нашу прысутнасць у Беларусі і будзем працягваць аказанне значнай кансультатыўнай і тэхнічнай дапамогі на ўзроўні 2—2,5 мільёна долараў, якія не трэба будзе вяртаць, — падкрэсліў на гэты конт пан Лін.

Ён яшчэ раз патлумачыў беларускаму кіраўніцтву, якія рэформы для нашай краіны ў Сусветным банку лічаць «крытычна неабходнымі».

— Беларусь відавочна сутыкнулася з цэлым шэрагам сур'ёзных эканамічных цяжкасцяў, якія паглыбіліся нядаўнімі падзеямі на сусветных рынках, — прызнаў віцэ-прэзідэнт Сусветнага банка. — Павольныя тэмпы рыначных рэформаў прывялі да нізкай эфектыўнасці беларускіх прадпрыемстваў, тэхналогіі якіх пастаянна старэюць, а абаротнага капіталу ў іх не хапае. Аднак павольныя тэмпы прыватызацыі і недружалюбнае асяроддзе для развіцця бізнесу прывялі да таго, што ўнутраныя і знешнія інвестары не жадаюць рызыкаваць, укладваючы тут свае капіталы.

Акрамя гэтага пан Лін зазначыў, што расійскі крызіс моцна пагоршыў сітуацыю, бо зніклі многія традыцыйныя пакупнікі беларускіх тавараў. Ён мяркуе, што расійскі рынак цяпер ужо не будзе дынамічным, ён не будзе пашырацца, а хутчэй наадварот — звужацца. Таму Беларусі, якая свядома сканцэнтравалася на расійскім рынку, патрэбна, на яго думку, дыверсіфікаваць свае рынкі збыту, як гэта зрабілі ўсе астатнія краіны Усходняй Еўропы і СНД, — эканоміка нашай краіны цалкам прыдатная да гэтага.

Прадстаўнік Сусветнага банка патлумачыў, што на яго погляд, Беларусі патрэбны пэўныя крытычныя рэформы: па-першае, гэта лібералізацыя механізма абмену беларускага рубля, адыход ад множнасці курсаў, каб зрабіць выгадней працу экспарцёраў, па-другое, правядзенне лібералізацыі цэн, абмежаванне крэдытнай эмісіі і спыненне інфляцыйнага ціску на эканоміку; па-трэцяе, паскарэнне тэмпаў прыватызацыі і паляпшэнне клімату для развіцця бізнесу. Карацей кажучы, трэба выканаць стандартны, даўно вядомы нашым урадавым эканамістам набор праграм. Пан Лін прызнаў, што гэтыя рэформы прыўнясуць пэўны дысбаланс у беларускую эканоміку, прывядуць да росту цэн і павелічэння беспрацоўя, але ўжо праз дватры гады, на яго думку, можна чакаць плёну ад такіх рэформаў. Сусветны банк разам з МВФ гатовы дапамагчы ў ацэнцы сацыяльных наступстваў падобных рэформаў у Беларусі.

Тым часам, як паведамілі ў прадстаўніцтве МВФ у Мінску, 2 лістапада ў нашу краіну прыбыла місія МВФ на чале з памочнікам дырэктара 2-га еўрапейскага дэпартамента МВФ Томасам Вульфам. Дэлегацыя прабудзе тут да 13 лістапада, яна разгледзіць магчымасць выдзялення Беларусі кампенсацыйнага крэдыту ў некалькі дзесяткаў мільёнаў долараў у сувязі з недаборам ураджаю і рэзкім падзеннем даходаў ад экспарту пасля крызісу ў Расіі.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

## СПЕЦЫЯЛІСТЫ ВЫКАЗВАЮЦЬ ТРЫВОГУ Ў СУВЯЗІ З ВЫСОКІМ УЗРОЎНЕМ ДЗІЦЯЧАЙ СМЯРОТНАСЦІ

У Гомельскай вобласці зафіксаваны самы высокі ўзровень дзіцячай смяротнасці па Беларусі. Паміраюць 17 дзяцей з 1000 народжаных, тады як у сярэднім па рэспубліцы — 12, прычым кожнае другое дзіця памірае ў першы месяц жыцця.

Такія даныя прыведзены 3 лістапада ў Гомелі на калегіі абласнога ўпраўлення аховы здароўя.

**Ірына МАКАВЕЦКАЯ, БелаПАН.**

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

У Японіі, дзе штодзённа рахункі з жыццём зводзяць каля 25 тысяч чалавек, упэўнены, што і гэта нельга пускаць на самацёк. Калі, напрыклад, японец кінуўся пад цягнік, тады адпаведныя кампаніі ўсё часцей у судовым парадку прад'яўляюць іскі родным самагубцаў, дабіваючыся кампенсацыі нанесенага ўрону з-за перабояў у рабоце транспарту. Часам у падобныхісках называюцца вялікія сумы. Ну а калі самагубствы здзяйсняюцца ў гасцініцах, у дамах, дзе здаюцца кватэры? Іх прэстыжу наносіцца сур'ёзны ўрон. Хто павінен яго кампенсаваць? Шукаюць родных, каб прымусіць плаціць іх праз суд.

**ІТАР-ТАСС**

37-гадовы швейцарскі велагоншчык Ален Бені ўстанавіў новы сусветны рэкорд: на ўзлётнай паласе швейцарскага ваеннага аэрадрома Паерн яму ўдалося разагнаць свой спартыўны веласіпед з ракетным рухавіком да 236 км у гадзіну, пабіўшы папярэдняе сусветнае дасягненне, якое раўнялася 212 км у гадзіну. Былі б крылы — Бені мог бы ўзляцець.

**«Сайпрус Мэйл»**

Памеры самай маленькай кнігі ў свеце — 18x13 міліметраў. Тысяча экземпляраў гэтага выдання была надрукавана ў Італіі. На 206 яго старонках — пасланне Галілея да мадам Крысціны дэ Ларэн, напісанае ў 1615 годзе. Наўрад ці вынаходнік тэлескопа мог тады меркаваць, што праз тры стагоддзі яго пісьмы будуць чытаць праз лупу, гартаючы старонкі з дапамогай іголкі. Яе кошт, дарэчы, складае каля 500 долараў.

**«Труд»**

## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Заход | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 7.17 | 16.30 | 9.13 |
| Віцебск – | 7.11 | 16.15 | 9.04 |
| Магілёў – | 7.06 | 16.19 | 9.13 |
| Гомель – | 7.01 | 16.19 | 9.18 |
| Гродна – | 7.33 | 16.44 | 9.11 |
| Брэст – | 7.27 | 17.51 | 9.24 |

### МЕСЯЦ

**З 17.02 — 17-ыя месяцавыя суткі.**

**З 12.12 Месяц — у сузор'і Блізнятаў.**

### ІМЯНІНЫ

**Пр. Ігната, Якава, Елісея**

**К. Славаміра, Альжбэты, Захарыя**

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, кароткачасовыя ападкі. Вецер заходні, 5—10 м/сек. Тэмпература паветра ў Віцебску — 1—3, Мінску, Гродне і Магілёве — 2—4, Брэсце і Гомелі — 4—6 градусаў вышэй нуля.

У наступныя двое сутак месцамі па рэспубліцы, а ўдзень 6-га і ўначы 7-га — на большай частцы тэрыторыі ападкі, пераважна ў выглядзе снегу. Вецер заходні, 6—11 м/сек. Тэмпература ўначы — мінус 3 — плюс 2, удзень 6-га — 1—6 градусаў цяпла, 7-га — мінус 1 — плюс 4.

## АЛЯКСАНДР ХАЦКЕВІЧ НАЗВАНЫ ЛЕПШЫМ ФУТБАЛІСТАМ БЕЛАРУСІ 1998 ГОДА

Дваццаціпяцігадовы паўабаронца нацыянальнай зборнай Беларусі і кіеўскага «Дынама» Аляксандр Хацкевіч стаў лепшым футбалістам Беларусі 1998 года. Гэта высветлілася падчас традыцыйнага апытання, праведзенага спартыўнай газетай «Прессбол» сярод трэнераў, футбольных спецыялістаў, суддзяў, журналістаў і (упершыню) капітанаў каманд. Хацкевіч набраў 240 ачкоў, атрымаўшы 64 першыя месцы, 19 — другіх і 10 — трэціх. На другой пазіцыі — паўабаронца маскоўскага «Спартака» Васіль Баранаў — 163 ачкі (23, 38, 18), на трэцяй — паўабаронца маскоўскага «Лакаматыва» Сяргей Гурэнка — 118 ачкоў (18, 23, 18).

Гэта ўжо 16-е апытанне па вызначэнню лепшага футбаліста Беларусі. Раней лаўрэатамі станавіліся Сяргей Гоцманаў (1983, 1985, 1987, 1989 гады), Сяргей Алейнікаў (1984, 1986, 1988), Андрэй Зыгмантовіч (1992, 1994), Аляксандр Мятліцкі (1990), Юрый Курбыка (1991), Сяргей Герасімец (1993), Валянцін Бялькевіч (1995), Уладзімір Макоўскі (1996) і Андрэй Лаўрык (1997).

**Дзмітрый УЛАСАЎ, БелаПАН.**

*Усё пра ўсё*

## Рагуля ў палярыне

**Бачыць зімой сабак, якія фарсіста прагульваюцца ў спецыяльным адзенні, — справа звычная. А вось прафесар Масаку Сакураі з Японіі займаецца праектаваннем адзення для... кароў. Касцюм для рагулі складаецца з палярыны, якая завязваецца на жываце, і капюшона з дзіркамі для рагоў.**

Адзенне вырабляюць са штучнага валакна, пакрытага тонкім слоем алюмінію. На думку вучонага, такі касцюм добра абараняе жывёл як ад летняй спякоты, так і ад зімовых халадоў і вятроў. Дарэчы, выявілася, што апранутая карова дае больш малака.

**По матэрыялах друку падрыхтавала Вікторыя КЛЯНОВІК.**

36,6°

# ПАГЛЯДЗІМ НА СЯБЕ Ў ЛЮСТЭРКА!

На практыцы даўно ўстаноўлена, што органы чалавека маюць свае кропкі далёка ад таго месца, дзе самі размяшчаюцца. Таму мы самі ў сябе можам даведацца і ўбачыць у іншых, у якіх органах адбываецца «збой».

Для гэтага:

— уважліва паглядзіце на сябе ў люстэрка;

— калі вы ўбачыце на сваім твары змяненні колеру скуры, высыпку ці пігментацыю, то знайдзіце гэтыя кропкі на малюнку, потым паглядзіце на табліцу (унізе) і вы лёгка вызначыце, якія адбываюцца парушэнні ў вашым арганізме.

***Змяненні на скуры твару, звязаныя з парушэннямі ў арганізме (высыпка, колер і г. д.).***




*1. Мачавы пухір*
*2. Тоўсты кішэчнік*
*3. Узыходная абадочная кішка*
*4. Тонкі кішэчнік*
*5. Энергетычны цэнтр дыхання*
*6. Верхні полюс правай ныркі*
*7. Печань*
*8. Лаханка правай ныркі*
*9. Апушчанае века на баку інсульта або пры глыбокім стрэсе*
*10. Нырка правая (сэрца)*
*11. Жоўцевы пузыр*
*12. Ніжні полюс правай ныркі*
*13. Правае лёгкае*
*14. Правая доля печані*
*15. Бронхі, правая галіна*
*16. Мачаточнік правы*
*17. Худая кішка*
*18. Пілярычны аддзел страўніка*
*19. Верхні полюс правай ныркі*
*20. Уваход стрававода ў страўнік*
*21. Мачавы пухір*
*22. Правая нырка*
*23. Кардынальная частка страўніка*
*24. Ніжні полюс правай ныркі*
*25. Пілярычны аддзел страўніка*
*26. Жоўцевы пузыр*
*27. Вілачкавая залоза*
*28. Сэрца*
*29. Верхні полюс левай ныркі*
*30. Падстраўнікавая залоза*
*31. Лаханка левай ныркі*
*32. Жоўцевы пухір*
*33. Нырка левая (сэрца)*
*34. Ніжні полюс левай ныркі*
*35. Страўнік*
*36. Сэрца*
*37. Палавыя органы*
*38. Мочаточнік левы*
*39. Левая доля печані*
*40. Лёгкае левае*
*41. Худая кішка*
*42. Малая крывізна страўніка*
*43. Вялікая крывізна страўніка*
*44. Палавыя органы*
*45. Верхні полюс левай ныркі*
*46. Нырка левая*
*47. Вегетатыўныя расстройствы*
*48. Ніжні полюс левай ныркі*
*49. Шчытападобная залоза*
*50. Сыходная абадочная кішка*

**«Исцеление».**

## НА КОНКУРС «ЗВЯЗДЫ» І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ



Іван ПЯШКО

***Вось ужо больш чым паўгода, рыхтуючы конкурсныя апавяданні і пішучы да іх прадмоўкі, заўважыў: ёсць творы, якія гэтых самых прадмовак патрабуюць, і ёсць, калі можна так сказаць, творы «самакаштоўныя», да якіх нічога не дадасі, якія лепш не псаваць каментарыямі, — дастаткова даць кароткія звесткі пра аўтара. Што мы зараз і зробім. Іван Пяшко нарадзіўся ў 1941 г., вучыўся, служыў, працаваў, выдаў тры кнігі прозы, сябар Саюза пісьменнікаў Беларусі, цяпер — намеснік галоўнага рэдактара шчучынскай раённай газеты «Дзянніца».***

**Андрэй ФЕДАРЭНКА.**

# ПОМНІК НА ЎЗБОЧЫНЕ

АПАВЯДАННЕ

ЖОНКА ЛЁГЕНЬКА штурхнула дзверы ў залу, спынілася на парозе і дакорліва ўтаропілася на мяне. Я ляжаў на канапе, глядзеў тэлевізар.

— Во каму жывецца весела, вальготна... Схадзіў бы лепш па маліны. Хоць бітончык прынёс бы, на лекі.

— Позна. Хутка вечар.

— Нічога, затое спякотна не будзе...

Я выключыў тэлевізар, падышоў да кніжнай шафы, але нічога не зацікавіла мяне, зазірнуў на кухні ў халадзільнік, выпіў піва. На вочы трапіўся двухлітровы бітончык. Так, посуд ёсць, трэба знайсці матузок. Выцягнуў шнурок з чаравікаў, кінуў у бітончык і выйшаў на падворак. З падвала вывеў веласіпед, ускочыў у сядло і паехаў.

Шмат малінніку на прасецы высакавольтнай лініі. Туды ад вёскі чатыры кіламетры, ехаць на веласіпедзе хвілін пятнаццаць. Дарога добрая — нядаўна паклалі асфальт, ехаць прыемна, і неўпрыкмет ўдалечыні паказаліся высокія бетонныя слупы.

Лінія перасякае шашу пад прамым вуглом. Пасярэдзіне пад правадамі сцяжына, узбоч яе па абодва бакі буяе кустоўе лазняку, бярэзніку, маліны і ажыны. Раз у дзесяць гадоў энергетыкі знішчаюць расліннасць, аднак карэнні застаюцца ў зямлі і кожнай вясной даюць жыццё новым парасткам.

Малінніку шмат, ён густы, аднак усюды ў кустах пракладзены сцяжынкі, значыць, людзі былі тут, збіралі. Толькі праз паўгадзіны натрапіў на нечапаныя ягады, і хутка бітончык напоўніўся малінамі. Радасны ад удачы, з палёгкай выбраўся з гушчэчы на прастору.

Высакавольная лінія побач з асфальтавай шашой, за якую сотню метраў, увесь час з трасы чуецца гул рухавікоў. Я выехаў са сцяжынкі на лясную дарогу. І раптам непадалёк ад шашы ўбачыў штосьці незвычайнае, спыніўся, падышоў бліжэй.

Гэта быў помнік. Такія помнікі час ад часу з'яўляюцца на ўзбочынах ажыўленых дарог, у тых месцах, дзе здараліся аўтамабільныя аварыі. У першыя дні там палымнеюць кветкі, потым узнікаюць пірамідкі з нержавейкі, рулі, звараныя з металу эмблемы аўтамабілістаў. Калі за некалькі гадоў помнікаў на дарогах становіцца шмат, іх урэшце заўважае начальства, дае адпаведным службам даручэнне, і тады на трасе з'яўляюцца бульдозеры, пірамідкі адсоўваюць за прыдарожныя кусты. На такую пірамідку я і натknуўся.

Была яна зроблена з бліскучага металу, вышынёй метра паўтара, без зоркі. Фундаментам служыла бетонная глыба. У яе ўманціравалі чатыры слупы з нержавейкі, і атрымалася агароджа.

Я падышоў да помніка. На пірамідцы невялікі здымак. Адкрыты круглы твар маладога мужчыны з вусікамі падаўся мне знаёмым. Пад здымкам на металічнай пласціне выбіты гады жыцця. Аварыя, згодна з надпісам, здарылася ў верасні дзевяностага года. Так, шафёра я бачыў. Тады стаяў не восеньскі, а па-сапраўднаму летні дзень. Было цёпла, на небе ні воблачка, у паветры насіўся пах садавіны. Два выхадныя, у суботу і ў нядзелю, я памагаў сястры капаць бульбу. Сагнуўшыся, стаяў у разоры, падбіраў клубні, насіў поўныя кашы ў мяхі, потым тыя мяхі на падводзе вазілі ў двор. Хоць і кароткі асенні дзень, але ад нязвыклай работы стаміўся, балелі рукі, ногі, ныла спіна. Работу скончылі ў нядзелю да абеду; паабедаўшы, я вырашыў ехаць дадому. Дабраўся на спадарожнай машыне да трасы, перасеў у аўтобус, што рухаўся з Гродна на Навагрудак.

Пасажыраў няшмат, месцаў хапала ўсім. Мусіць, як і я, выхаднымі працавалі на агародах і сотках. Цяпер, стомленыя, пад аднастайны гул рухавіка драмалі.

Мяне таксама пацягнула на сон. Не памятаю, колькі часу спаў, але, стукнуўшыся аб шкло, прачнуўся. Аўтобус марудна сунуўся па асфальце.

Я зірнуў на прадаўгаватае люстэрка ў кабіне вадзіцеля. Вадзіцель змагаўся са сном. Я перавёў вочы на пасажыраў. Усе яны, быццам прыняўшы таблеткі снатворнага, спалі. Вадзіцель быў апошні, хто не паддаваўся слодычнай спакусе, кіраваў аднои рукой, другая падтрымлівала галаву.

Я спалохана ўтаропіўся ў люстэрка. Мой позірк шафёр заўважыў, пакруціў галавою, як бы адбіваючыся ад сну, прыбавіў газу.

Санлівасць маю як рукой зняло. Стомлены вадзіцель мог у любы момант страціць кантроль над сабою, звярнуць на ўзбочыну, ударыцца аб дрэва ці ўмазацца ў сустрэчную машыну.

Я пасунуўся на край сядзення, каб паспець, калі што якое, падбегчы да вадзіцеля, ухапіцца за руль...

Да Шчучына заставалася кіламетраў пяць. Вадзіцелю ўдалося іх праехаць без перашкод.

Я нічога не сказаў яму, калі ў Шчучыне выходзіў з аўтобуса. Зрэшты, не мог сказаць, пакуль з задняга месца з двума сумкамі выбіраўся да выхаду. Вадзіцель, трымаючы паперы, трушком пабег у дыспетчарскі пакой.

... Сарваны бульдозерам помнік быў кіламетраў за дзесяць ад райцэнтра. Значыць, вадзіцель навагрудскага аўтобуса ад'ехаў ад Шчучына недалёка.

Як шкада, што ў той прыгожы асенні дзень, калі выходзіў на аўтастанцыі, я змаўчаў.

## Post Factum

### Гэты дзень у гісторыі

● **5 лістапада 1605 года** змоўшчыкі на чале з Гаем Фоксам спрабавалі ўзарваць будынак англійскага парламента, дзе павінен быў прысутнічаць на адкрыцці сесіі кароль Якаў I. У падвалах будынка яны схавалі 30 вялікіх бочак з порахам, але ў апошні момант кнаты патухлі з-за нечакана хлынуўшага ліўня. Змоўшчыкі былі схоплены і пакараны. З таго часу перад адкрыццём кожнай сесіі парламента па традыцыі адбываецца цырыманіяльны агляд усіх сутарэнняў будынка.

● **У гэты дзень у 1905 годзе** нарадзіўся «... і прымкнуўшы да іх Шапілаў» — савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч, удзельнік «антыпартыйнай» групоўкі, якую ў 1958-м выкраў Мікіта Хрушчоў.

● **5 лістапада 1913 года** нарадзілася легендарная англійская кінаактрыса Вів'ен Лі — выканаўца ролі Скарлет О'Хары («Знесеныя ветрам»), Майры («Мост Ватэрлоо»), Эмы («Лэдзі Гамільтан») і інш.

● **5 лістапада 1938 года** нарадзіўся выдатны французскі спявак Джо Дасэн.

● **У гэты дзень у 1940 годзе** Франклін Рузвельт у трэці раз быў абраны прэзідэнтам Злучаных Штатаў.

● **5 лістапада 1952 года** нарадзіўся Алег Блахін, славуты савецкі футбаліст, лепшы футбаліст Еўропы 1975 года.

### Цікава

***На думку брытанскіх псіхолагаў, непрыгожая жонка прадаўжае жыццё мужа ў сярэднім на 12 гадоў.***

Тлумачэнне гэтаму простае: мужы, усе думкі якіх заняты пастаяннай рэўнасцю і тым, як найлепш дагадзіць сваёй палавіне, маюць менш шанцаў захаваць нармальны стан духу і цела.

### А яшчэ быў выпадак...

***Армейскі гумар — рэч даволі своеасаблівая. Цывільным, часам, яе не зразумець. Было гэта яшчэ ў перыяд існавання «Саюза непарушнага»...***

Экіпаж нейкага самалёта налічваў пяць мужыкоў. У абавязкі аднаго з іх — капітана Зарубіна — сярод іншага ўваходзіла занесці перад узлётам у самалёт пяць парашутаў. Цягаць парашуты было даволі далёка, а капітан, трэба сказаць, быў даўно ўжо не хлопчык і, зрабіўшы два рэйсы з двума парашутамі кожны, за пятым ісці паленаваўся.

— А калі скакаць давядзецца, тады што? — пытаюцца таварышы па экіпажу.

— Ну, я ўжо стары. Гэта вам, маладым, жыць ды жыць. Я, так і быць, застануся, — адказаў Зарубін, паваліўся на складзеныя ў кругу парашуты і моцна заснуў.

Тым часам самалёт прыляцеў куды трэба было і зрабіў паспяховую пасадку. Капітан усё яшчэ моцна спаў. Тут камусьці з экіпажа і прыйшла ў галаву ідэя пажартаваць над ім. Усе з крыкамі «Тэрмінова! Пакідаем самалёт!» адпіхнулі спаўшага, кінуліся надзяваць парашуты і скакаць у адкрыты люк. Ноч, за бортам нічога не відаць, рухавікі равуць (глушыць іх не сталі). Карацей, застаўся адзін парашут і стаяць над ім капітан Зарубін і камандзір самалёта.

— Ну што ж, ты сам казаў... Бывай! — горка сказаў камандзір і ўзяўся за парашут. У адказ ён нечакана атрымаў адчувальны ўдар жалязякай, якая трапіла пад руку капітану Зарубіну, і ўпаў непрытомны. У наступнае імгненне пераможца нацягнуў парашут і, шырока раскінуўшы рукі, плашмя, як вучылі, выкінуўся з двухметровай вышыні на асфальт аэрадрома.

Вынік: у камандзіра — страсенне мазгоў, у Зарубіна — пералом носа, шматлікія сінякі ў іншых месцах.

Не служыць яму больш у авіяцыі.

### Дзесьці на белым свеце

***Газета «Уіклі уорлд ньюс» правяла апытанне ў пяці буйных гарадах Амерыкі, высвятляючы, хто згодзіцца за 1 мільён долараў адправіцца на работу поўнасцю голым.***

Вынік пераўзышоў усе чаканні. Сярод мужчын, гатовых за гэтыя грошы распрануцца, такіх знайшлося 84 працэнты. Жанчыны аказаліся больш сціплымі: толькі 20 працэнтаў апытаных згадзіліся прадэманстраваць усё, што дала ім прырода. Праўда, сапраўднае тлумачэнне можа хавацца і ў словах 39-гадовай афіцыянткі з Атланты, якая распранулася б пры ўмове: «Толькі хай папярэдзяць за некалькі тыдняў — мне трэба скінуць фунтаў 15».

### Хочаце — верце...

***Восенню ў лесе цямнее рана. Таму небарака-грыбнік з Ольштынскага ваяводства, 80-гадовы Уладзіслаў Квасіборскі, пасля доўгіх блуканняў ужо страціў усялякую надзею выбрацца са змрочных нетраў.***

У гэты час яго сын забіў трывогу: Юзаф узняў на ногі паліцыю, суседзяў — разам яны метадычна прачэсвалі зараслі. За Юзафам увязаўся любімец сям'і — кот Зенэк.

Праз гадзіну пошукаў вусаты ўзяў ініцыятыву ў свае лапы: гучна мяўкаючы, ён кінуўся ў густы хвойнік. Юзаф, асвятляючы дарогу ліхтарыкам, пайшоў за ім. Кот вёў свайго гаспадара кіламетры тры. І вывеў сына да таго месца, дзе ў кучы апалага лісця прылёг адпачыць стомлены грыбнік.

Такая вось гісторыя здарылася ў глухіх лясах каля польскага гарадка Шчытна. А Зенэк стаў цяпер мясцовым героем.

### Анекдот

*У рэстаране за столікам трое мужчын размаўляюць пра сваіх жонак:*

*— Я сваю ў Гагры адправіў.*

*— Я ў Піцунду.*

*— А я са сваёй сам сплю...*

## ВІНШАВАННІ

*З днём нараджэння віншуем дарагую дачушку* ***Жанну Яўгенаўну ПІЦІНАВУ*** *з Бешанковіч.*

*Хай будзе ў хаце тваёй свята,*
*Нягоды пройдуць стараной.*
*Здароўя, шчасця, дабрабыту*
*Жадаем мы усёй сям'ёй.*

**Родныя,** г. Гомель.

*Шчыра віншуем з днём нараджэння* ***Зінаіду Міхайлаўну АСІПОЎСКУЮ*** *з в. Панізззе Смаргонскага раёна. Жадаем моцнага здароўя, жыццёвай упэўненасці, удачы, дабрабыту.*

**Сям'я Шчасных.**

*Віншуем* ***Таццяну Эдуардаўну ЛАГУН*** *(в. Церабуты) і* ***Аляксандра Алегавіча ФЛОЦКАГА*** *(г. Ст. Дарогі) з днём нараджэння. Жадаем здароўя, радасці і поспехаў на жыццёвым шляху.*

**Шура, Ірына.**

*Віншуем з 19-годдзем дарагога сыночка і ўнука* ***Аляксандра Аляксандравіча КУЛАКОВІЧА,*** *які служыць у войску.*

**Тваё родныя** з г. Століна.

*Віншуем з 65-годдзем* ***Галіну Васільеўну ЗАВАДСКУЮ з*** *г. Барысава. Жадаем здароўя, бадзёрасці, душэўнага спакою і доўгіх гадоў жыцця.*

**Сем'і Гудашыных, Чорных, Лагуноў.**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: Рэдакцыя газеты «Звязда», вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, 220013, гор. Мінск.*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намесніка галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве — 31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by* «ДЛЯ ВАС» — 32-44-12.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі. Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі. Матэрыялы, пазначаныя значком носяць рэкламны характар. Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 100.989. Індэкс 63850.
Зак. № 6440.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12